№ 31 (820) 21 жніўня 2013
www.nn.by
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Арлоў 60

Правілы жыцця — **старонка 2.**
Гутарка — **старонка 9.**

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Палітыка**

## Ці спалохае Масква ўкраінскага вожыка?

Украіна настроілася на асацыяцыю з ЕС.
**Старонка 3.**



**Свінацыд**

## Свіныя бунты крочаць па краіне

Вяскоўцы адмаўляюцца выдаваць дзюдзяў.
**Старонка 5.**



**Рэпартаж**

## Край Беларусі. Захад: Высокае

Дзіўная Беларусь прыватнікаў.
**Старонкі 6—7.**



**Літаратура**

## Змiцер Дашкевіч. Чарвяк

Падняўся я, як заўсёды, па пад'ёме, а палове на шостую... **Старонка 12.**



# Любімае казіно Пугачовай пагарэла на прастытуцыі

**Супрацоўнікаў «Шангры Ла» злавілі пасля чатырох гадоў сачэння.**

Як паведаміла прэс-служба Міністэрства ўнутраных справаў, затрыманыя два чалавекі, якіх падазраюць у стварэнні ўмоваў для прастытуцыі. Гэта маладыя людзі 1985 і 1986 гадоў нараджэння. 26-гадовая дзяўчына раней сама аказвала сэксуальныя паслугі, а пасля стала падбіраць дзяўчат для кліентаў.

Збор інфармацыі пра іх дзейнасць супрацоўнікі падраздзялення па наркагандлі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі МУС праводзілі з 2009 года — ад моманту адкрыцця казіно.

Устаноўлены факты, калі заможным мужчынам, пераважна кліентам казіно «Шангры Ла», для платных інтымных паслуг прапаноўвалі дзяўчат мадэльнай знешнасці. Паслугі пачыналіся ад тысячы даляраў.

«Шангры Ла» ўваходзіць у сетку казіно пад кіраўніцтвам міжнароднай кампаніі Storm International. Казіно пазіцыянуе сябе для VIP-кліентаў, якія адчуюць «непаўторны камфорт у атмасферы раскошы». Тут ёсць гульнявая зала, два пакоі для прыватнай гульні, рэстаран, бар, пакой для адпачынку. У Мінску яно месціцца ў самым цэнтры — на вуліцы Кірава, каля стадыёна «Дынама» і Мінсельгасхарча.

Уладальнікі чакалі, што тэрмін акупнасці казіно складзе адзін год. Пасля пераносу казіно з Масквы і іншых гарадоў цэнтральнай часткі Расіі мінскае «Шангры Ла» ўладальнікі арыентавалі казіно на расійскіх багацеяў. Напрыклад, гаварылася, што «Шангры-Ла» — гэта любімае казіно поп-дзівы Алы Пугачовай. У самой Расіі казіно забароненыя.

**Сяргей Макарэвіч**




**Шангры-Ла**
Неіснуючая краіна, апісаная ў навэле пісьменніка-фантаста Джэймса Хілтана «Страчаны гарызонт».

# Уладзімір Арлоў. **Правілы жыцця**



• У жанчынах цаню ўсё, што ў іх ёсць.

• У мужчынах — вернасць самому сабе.

• У сабе мне найбольш падабаецца зацятасць. Найменш — яна ж, калі пераходзіць пэўную мяжу.

• Мае настаўнікі — дрэвы на беразе Люхава: два дубы, вольха і ясень. Побач з імі стаяў клён, але ў той год, калі была аперацыя на сэрцы, у дрэва трапіла маланка і яно загінула. Сёлета я пасадзіў побач з ягоным «надмагіллем» два маладыя клёнікі.

• Ці ёсць у мяне вучні? Дакладна ведаю, што былі, калі паўгода выкладаў гісторыю ў школе.

• Еўразійскі шлях прывядзе ў нацыянальны нябыт. Бачу Беларусь у Еўрасаюзе, але гэта няблізкая будучыня.

• Цяжка, калі цябе ніхто не кахае. Трагічна, калі нікога не кахаеш сам.

• Як заваяваць жанчыну? Існуе такая формула: здзівіць, спалохаць, насмяшыць. Я ў яе не веру. На наша мужчынскае шчасце жанчыны настолькі розныя, што шукаць універсальны рэцэпт заваёвы, далікатна кажучы, наіўна.

• Пасля 2008 года стараюся слухацца дактароў і п'ю штодзённую жменьку лекаў. На дзясятым дзясятку Чэслаў Мілаш пісаў, што рабіў тое самае, і згадваў сяброў, якія з парадаў медыкаў толькі смяяліся. Аднак прачытаць тыя словы мэтра сябры ўжо не маглі.

• Любімая страва — у залежнасці ад гадзіны дня, пары года, ад таго, хто яе гатаваў. Можа быць проста аўсянка з мёдам. Дранікі з рознымі дадаткамі і прыбамбасамі. Бараніна ў размаітых «іпастасях», прыкладам, барановая смажанка пад чарнаслівам, якую ядуць кароль і пісьменнік у «Ордэне Белай Мышы».

• Любімы напой — сухое чырвонае віно, пажадана з Новага Свету: каліфарнійскае, аўстралійскае, аргенцінскае, чылійскае...Калі п'ю паўднёваафрыканскае, уяўляюцца любоўныя гульні львоў у саванне. Часам доўгімі зімовымі вечарамі пад бел-чырвона-белае сала магу сабе дазволіць старой добрай стадарожскай. Штодзённы ж улюбёны напой — амаль чыфіравага мацунку гарбата з малаком.

• Добрая літаратура — гэта тая, якую цікава чытаць і якая прымушае страпянуцца цябе самога, абсалютна нечакана нараджаючы асацыяцыі, сюжэты, дыялогі... Апошні прыклад — раман Жузэ Эдуарду Агуалузы «Прадавец мінулага».

• Чытаю і перачытваю заўсёды некалькі кніг. Зараз падыду да стала і пералічу. Біблія. «Цынамонавыя крамы» Бруна Шульца. «...І цуды і страхі» Вольгі Бабковай. Свежы нумар «Иностранной литературы», дзе знайшоў дыялогі Адольф Біёя Касарэса з Борхесам. Але галоўная настольная кніга — тая, якую пішу. Пішу ад рукі, а перапісваць перасяду да камп'ютара.

• Найлепшых сяброў ужо даўно няма. Я напісаў пра іхнія розныя, але аднолькава трагічныя лёсы ў кнізе «Імёны Свабоды». Генадзь не вярнуўся з Афганістана. Валера загінуў на мінскай вуліцы пад коламі машыны генпракурора.

• Калі не ў Беларусі, то хацеў бы жыць у Англіі, але, спадзяюся, да гэтага не дойдзе.

• З кіно гляджу найперш класіку другой паловы XX стагоддзя. Нядаўна яшчэ раз паглядзеў «Акупацыю» Андрэя Кудзіненкі і ягоную «Масакру».

• Нельга прабачыць адрачэненне свайго і адданую службу тым, хто яго нішчыць.

• Калі кепскі настрой, то я плаваю. У метафізічным сэнсе таксама.

• Баюся не паспець.

• Дзяцей трэба выхоўваць сваім прыкладам і добрымі кнігамі.

**Запісаў ЗП**

Гутарка — старонка 9.

### Апытанне на nn.by

**Вас білі бацькі ў дзяцінстве?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 553 | 55% |
| Не | 417 | 42% |
| Не памятаю | 32 | 3% |

Усяго прагаласавала — 1002.

### Сціисла

**Следчы камітэт адмовіў Міхалевічу**

Экс-кандыдат у прэзідэнты атрымаў адказ ад Следчага камітэта адносна спынення крымінальнай справы за Плошчу-2010. У адказе гаворыцца, што пытанне без яўкі самога Міхалевіча вырашыць немагчыма. Ад 2011 года Алесь Міхалевіч знаходзіцца ў вымушанай эміграцыі.

**Выйшаў комікс пра Каліноўскага**

Комікс «Пра Кастуся» выйшаў накладам у 1000 асобнікаў, праўда, пакуль у продаж выданне не трапіць, найперш яго распаўсюдзяць па бібліятэках. Стварыў яго мастак Уладзімір Дрындрожык. А выдалі ў Саюзе пісьменнікаў.

**«Белавія» спыняе палёты ў Егіпет**

Звязана гэта з напружаным становішчам у краіне. У жніўні яшчэ будуць забіраць тых турыстаў, што там цяпер у адпачынку, а вось у верасні ўжо не паляцяць. Цяпер «Белавія» выконвае чартарныя рэйсы ў егіпецкія гарады Шарм-эль-Шэйх і Хургаду па замове аднаго з буйных турыстычных аператараў.

**На кальцавой загінуў матацыкліст**

26-гадовы кіроўца матацыкла Suzuki R-600 без рэгістрацыйных нумароў сутыкнуўся з аўтамабілем Seat Toledo. Ад атрыманых траўм байкер загінуў на месцы. Гнаў хлопец больш за 200 кіламетраў за гадзіну.

**Парыжскі цягнік наехаў на авечак**

Адбылося гэта ў Жабінкаўскім раёне. Цягнік Масква — Парыж наехаў на статак авечак. Машыніст не заўважыў. Восем жывёлін загінула.

**ЛМ, ЮУ**

### Рэкамендуем

## Маладая пара зрабіла вяселле ў старашляхецкім стылі

Глядзіце фотарэпартаж на nn.by.

### Самае чытанае на nn.by за 14—20 жніўня

1. У элітным сталічным клубе ўвялі магчымасць з мужчынскага туалета падглядаць за дзявочым
2. АНТ: Аўтара відэа пра МАЗ асудзілі на 7 сутак «за мацюкі», але насамрэч не за іх
3. У Брэсцкай вобласці ўспыхнуў «свіны бунт»
4. Маладая пара зрабіла вяселле ў старашляхецкім стылі — фоты
5. Расія распачала супраць Украіны эканамічную вайну
6. Новая хваля беларускасці
7. Беларуска Святлана Маркіяновіч трапіла ў палон да сірыйскіх паўстанцаў — відэа
8. Знойдзеная магіла кіраўніка беларускай антысавецкай партызанкі 1920-х
9. Чужыя і іх тухлая ідэалогія
10. Мінскі міліцыянер прымушаў прастытутак да «суботнікаў»

# Масква гатова на ўсё

**каб сарваць** падпісанне дамовы пра асацыяцыю Украіны з ЕС.




Ціск на вялікі бізнэс, уплыў праз Праваслаўную Царкву і подкуп СМІ і палітыкаў — такія элементы плана

14 жніўня быў у Кіеве дзень як дзень. У залатаверхіх саборах свяцілі мёд і мак, як заўжды на Макавея. Мітусня ў шматлікіх «ідальнях» і кафэ, заторы дарагіх іншамарак на дарогах. Навіна пра тое, што расійская мытня спыніла пропуск украінскіх тавараў на мяжы, прагучала як гром сярод яснага неба для ўсіх.

Што значыць «спыніла пропуск украінскіх тавараў»? Гэта значыць, што і «Чумак», і «Алейна», і «Тэхнафас», і «Кранаспан» — дзясяткі ўкраінскіх вытворцаў панясуць страты.

Расія і раней, бывала, падушвала Украіну. Пачынаючы з 1991—1992 года, калі яшчэ малады Ельцын спадзяваўся вярнуць Украіну ў саюз. Тады Расія рэзка абрэзала пастаўкі камплектуючых, сыравіны, прывяла да гіпердэвальвацыі ўкраінскага купона-карбованца.

Пасля Аранжавай рэвалюцыі Масква выкарыстоўвала пераважна газавую і нафтавую трубу. Але да таго, каб проста спыніць усе транспарты з Украіны на мяжы, раней не даходзіла.

Як гэта было зроблена тэхнічна?

### Падлягаюць татальнай праверцы

Федэрацыя працадаўцаў Украіны — гэта такое аб'яднанне вялікага бізнэсу — выявіла, што з 00:00 гадзін 14 жніўня да профілю рызыкі сістэмы кіравання рызыкамі Федэральнай мытнай службы Расіі былі дададзены ўсе без выключэння ўкраінскія экспарцёры.

А транспартныя сродкі, якія перавозяць прадукцыю такіх таваравытворцаў, на мяжы Расіі падлягаюць татальнай праверцы, уключаючы выгрузку, пераўзважванне грузу і новую загрузку. У выніку вагоны прастойваюць, прадукты псуюцца... Усё, стаяць! Вядома, гэта пярэчыць і стандартам Сусветнай гандлёвай арганізацыі, і нормам СНД. Фактычна, гэта вайна. Гандлёвая вайна.

Чаму Расія пайшла на гэты крок? У Маскве не хаваюць: яны хочуць любым коштам сарваць падпісанне Дамовы пра асацыяцыю Украіны з ЕС. Паралельна з гэтай дамовай Украіна падпісвае дамову пра зону свабоднага гандлю з Еўрасаюзам.

Шматстаронкавыя дамовы чытаць занудна, але падзея гістарычная: Еўропа адкрывае дзверы ўкраінскім таварам, а Украіна абавязуецца перайсці на еўрапейскія праўныя стандарты і каштоўнасці. Пасля гэтага да ўступлення ў Еўрасаюз застанецца адзін крок. Ён можа расцягнуцца на 5—10 гадоў, але толькі ад волі Кіева будзе залежаць, увазходзіць ці не ўваходзіць. Праціўнікі еўрапейскага выбару столькі талдычылі: «у Еўропе нас ніхто не чакае», а тут на — дзверы адкрытыя.

З краін былога СССР раней у ЕС уступілі краіны Балтыі — Расія разглядала іх як безнадзейна страчаныя для сябе. Дамову пра асацыяцыю забяспечыла Малдова — малая, далёкая і стратэгічна маламалазначная. Украіна — гэта першы выпадак, калі ЕС ступае ў прастору былога СССР па-сур'ёзнаму.

Еўрасаюз — вялікае цела. Нельга ўявіць сабе, каб ад краіны Еўрасаюза адарвалі частку — дапусцім, Крым. Нельга ўявіць сабе, каб краіна Еўрасаюза знішчала нацыянальную мову. А свабодны гандаль, рух капіталаў і людзей будзе звязваць сотнямі нябачных нітачак.

І ўлады, і апазіцыя ва Украіне глядзяць на гэтае пытанне кансэнсусна. Уступаць! Гэта ў стратэгічным нацыянальным інтарэсе!

Крэмль, здаецца, запозна зразумеў, што адбываецца. Расійская дыпламатыя чакала, што Еўрасаюз разыдзецца з Кіевам у пытанні аб правах чалавека — таксама як пасля пагрому Плошчы 2010 разышоўся з Мінскам.

Актыўныя дзеянні Масквы пачаліся месяц назад. Былі зроблены крокі, ад якіх дыстанцыяваліся нават беларускія васалы Крамля: прынамсі, Беларусь не ўвяла забарону на ўкраінскія тавары следам.

### Удар па трубах

16 ліпеня прэм'ер Мядзведзеў агучыў адмену бязмытнага рэжыму ўвозу ўкраінскіх трубаў — асноўнай пазіцыі ўкраінскага экспарту. Кіеў «не поняў».

Наступнай была забарона на ўвоз украінскіх цукерак — на ўсё гатовы санітар Анішчанка знайшоў у шакаладзе «Рашэн» бензапірэн, хоць мільёны людзей з асалодай яго ядуць. Узгадвалася, як той самы чалавек забараняў беларускае малако, калі камусьці трэ' было вырваць у Лукашэнкі «Белтрансгаз» — хоць наша малочка нашмат лепшая за расійскую. «Кепскімі» былі ў свой час і малдаўскія натуральныя вінаградныя віны, і нават грузінская баржомі.

Але мурыжыць тавары на мытні на падставе «профілю рызыкі» — гэта новае ноу-хау. Ані супраць Беларусі, ані супраць Малдовы такога метаду не ўжывалі.

### Самабойчы крок

Блакада паставак украінскіх тавараў расійскай мытняй насіла разавы характар, заявіў агенцтву «Інтэрфакс» дарадца прэзідэнта Пуціна Сяргей Глазьеў. Яна мела на мэце паказаць, што чакае ўкраінскіх вытворцаў.

«Цяпер сітуацыя нармалізавалася, але мы рыхтуемся да больш жорсткага мытнага адміністравання, калі раптам Украіна здзейсніць гэты самабойчы крок, падпісваючы дамову пра асацыяцыю з ЕС», — зазначыў Глазьеў.

Каб не быць галаслоўнымі, у СМІ злілі расійскую стратэгію недапушчэння падпісання Украінай пагаднення з ЕС, а далей уцягвання яе ў Мытны саюз (МС) і Адзіную эканамічную прастору (АЭП). Дакумент «Аб комплексе мер па прыцягненні Украіны ў еўразійскі інтэграцыйны працэс» апублікавала ўкраінская газета «Дзэркало тыжня».

### Если вы только...

Агульная логіка сістэмы мер для прыцягнення Украіны ў МС і АЭП заключаецца «ў канцэнтраваным і ўсебаковым уздзеянні на цэнтры прыняцця рашэнняў з апорай на сяброўскія і прагматычныя сілы ва ўрадзе, парламенце, дзелавых колах, навуковай і журналісцкай супольнасці пры актывізацыі прыхільнікаў і нейтралізацыі праціўнікаў удзелу Украіны ў МС і АЭП». Пры гэтым адпаведная комплексная праграма дзеянняў «павінна рэалізоўвацца сіламі ўкраінскай грамадскасці, не даючы падставаў прадстаўляць дадзеную дзейнасць як «руку Масквы». У стратэгіі адзначаецца, што негатыўнае стаўленне ўкраінскага кіраўніцтва да далучэння да АЭП і МС не можа быць пераадолена шляхам толькі растлумачальнай працы. «Апошняя павінна быць падмацавана ўсебаковым ціскам з мэтай стварэння адчування непазбежнасці далучэння з мэтай выжывання цяперашняй пануючай эліты», — гаворыцца ў тэксце. «Пры працы з бізнэс-структурамі трэба ... звяртацца да санкцый у дачыненні да прадпрыемстваў, уладальнікі ці кіраўнікі якіх падтрымліваюць палітычныя сілы, якія з'яўляюцца праціўнікамі далучэння [да Мытнага саюза] ці адкрыта агітуюць за еўраінтэграцыю», — прапануецца ў праграме дзеянняў.

### І мітрапаліта

Стратэгія прадугледжвае ўздзеянне на медыяпрастору, у прыватнасці, шляхам персанальных дамоўленасцей з уладальнікамі тэлеканалаў «як мінімум, аб нейтралітэце ў доступе да эфіру» прыхільнікаў АЭП і МС. Таксама адным з пунктаў стратэгіі з'яўляецца ўплыў праз Праваслаўную Царкву. «З улікам спецыфікі асобы Януковіча плаванне работы па далучэнні мэтазгодна весці, выкарыстоўваючы магчымасці ўкраінскага духавенства УПЦ Маскоўскага Патрыярхата», — гаворыцца ў тэксце.

### «Лукашэнка мог бы знайсці аргументы»

Цікава, што ў дакуменце згадваецца і беларускае кіраўніцтва. «Асабліва эфектыўнымі могуць апынуцца прамыя абмеркаванні гэтай тэмы Януковіча з Лукашэнкам і з Назарбаевым. З улікам беларускіх каранёў Януковіча і адмоўнага да іх стаўлення з боку ЕС, Лукашэнка мог бы знайсці пераканаўчыя для Януковіча аргументы на карысць еўразійскай інтэграцыі», — лічаць аўтары дакумента.

### Задушаць?

І Еўрасаюз, і Януковіч не лыкам шытыя.

Эканамічная блакада ўдарыць па ўкраінскім экспарце, але МВФ здольны выдаць Украіне вялікі крэдыт для кампенсацыі стратаў у замежным гандлі. Няма ніякіх палітычных праблем у адносінах Украіны з Захадам маштабу тых, якія застаюцца ў Лукашэнкі.

Калі ў 2009 годзе Масква перакрыла Украіне газ, тады яшчэ «аранжаваму» Кіеву не было куды дзецца. Альтэрнатыўнай сістэмы паставак паліва проста не было. Замярзалі Балгарыя, Славаччына, але і Кіеў быў пастаўлены на калені па меры вычарпання газасховішчаў.

### Яйцы без крыку

Еўрасаюз толькі падаецца структурай «без яйц», як выказаўся адзін палітык. Але ў рэальнасці Захад паслядоўна і акуратна гне сваю лінію. І ў выпадку Украіны Еўропа пастанавіла: памагчы.

За вельмі сціслы тэрмін, некалькі гадоў, без лішняга крыку былі дабудаваныя газаправоды і змычкі, якія дазваляюць гнаць газ не толькі з усходу на захад, але, пры патрэбе, і з захаду на ўсход. Прычым адначасова і са Славаччыны, і з Венгрыі, і з Польшчы. І гэтай зімой былі здзейсненыя дэманстратыўны закуп Украінай газу ў Германіі. Ён абышоўся «Нафтагазу Украіны» танней, чым расійскі!

У «Газпраме» запратэставалі: Украіна абавязаная купляць у нас, па існуючых дамовах. Але да Стакгольмскага арбітражу справа не дайшла.

Амерыканскія кампаніі, у сваю чаргу, распачалі амбітныя праекты пошуку газу на чарнаморскім шэльфе, перапрацоўкі газу, які ўтвараецца пры здабычы вугалю ў Данбасе і пошуку сланцавага газу — новае слова ў энергетыцы, якое зрабіла рэвалюцыю на амерыканскім рынку.

### Дэжа вю

У 1991 Масква — тады яшчэ Гарбачоў — спрабавала эканамічнай блакадай задушыць Прыбалтыку. Літва, Латвія і Эстонія перажылі некалькі цяжкіх гадоў, але ў выніку адбылася структурная перабудова эканомік.

Ці напалохае Масква ўкраінскага вожыка? Выглядае, што агрэсіўнымі дзеяннямі гэтым разам Масква спрабуе спыніць цягнік, які ўжо набраў хуткасць. У выніку яна аслабіць сяброўства, настроіць супраць сябе суседнія народы. І тым самым прыспешыць працэс еўраінтэграцыі ў рэгіёне «Усходняга партнёрства».

**Мікола Бугай**

# Інга Хрушчова: Я сышла з БТ па маральных меркаваннях

**Былая вядучая «Панарамы»** занялася відэаўрокамі для падарожнікаў у Еўропу.

«Вы даўно марыце адправіцца ў Еўропу на аўто, але не ведаеце з чаго пачаць?» Бясплатны відэакурс «Дарога ў Еўропу» прапануе ў інтэрнэце... Інга Хрушчова. Тая самая, якая ў канцы 1990-х была адным з сімвалаў прапаганды на БТ.

Ад 1995 да 2001 яна была вядучай навінаў, працавала і ў прэзідэнцкім пуле. З цягам часу Хрушчова ўзначаліла аддзел палітычных аглядальнікаў Агенцтва тэлевізійных навінаў на БТ.

На наступны дзень пасля «пераканаўчых» прэзідэнцкіх выбараў 2006 ёй і яшчэ дзясятку журналістаў дзяржаўных СМІ была абʼяўленая падзяка Аляксандра Лукашэнкі. Зрэшты, гэта была не адзіная ўзнагарода палітычнай аглядальніцы.

У апошні час Хрушчова выходзіла ў эфір толькі ў самыя адказныя моманты, як, напрыклад, пасля прэзідэнцкіх выбараў-2010.

«Праграма Лукашэнкі была ясная і зразумелая. Прафесійныя і асабістыя якасці прэзідэнта выбаршчыкі ацэньвалі па пазітыўным досведзе працы. А вось супернікі кіраўніка дзяржавы ніякай пазітыўнай альтэрнатывы выбаршчыкам прапанаваць не змаглі. Быць проста супраць Лукашэнкі — гэта не тая праграма, за якую галасуюць людзі», — была перакананая тады яна.

«Я сышла з БТ менавіта па маральных меркаваннях. І даўно ўжо не займаюся прапагандай. Чаго жадаю ўсім, хто думае, што палітыка — гэта нешта светлае і чыстае. У любым палітычным лагеры вас выкарыстоўваюць», — тлумачыць Хрушчова ў сваім Фэйсбуку.

Яе відэаканал на ЮТубе тым часам прапануе карысныя парады, як хутка прайсці мяжу і выехаць з Беларусі ў Літву.

**Ягор Марціновіч**



**Дзяніс Бальшакоў**

прапагандысцкі герой пазнейшага часу. Яго прозвішча стала папулярным пасля Плошчы-2006. Аўтарству ідэйнага трэцякурсніка журфака прыпісалі сюжэты пра шпрыцы і порначасопісы ў намётавым мястэчку.

Тэлефонны нумар Бальшакова аказаўся ў інтэрнэце — і на прапагандыста абрынуўся шквал званкоў і смс-паведамленняў ад абураных гледачоў.

Пакрыўджаны Бальшакоў дайшоў да суда, маўляў, абразілі гонар. Але маладзёнаў, якія дасылалі яму смс-кі, апраўдалі.

Былі і іншыя трыумфальныя ролікі — напрыклад, пра апазіцыйную моладзь, якая спаліла ў лесе гумовую жанчыну з крамы сэкс-тавараў. Пасля заканчэння ўніверсітэта прапагандыст пайшоў па «камсамольскай лініі». Даслужыўся да кіраўніцтва мінскага гарадскога камітэта БРСМ.

На некаторы час знік з грамадскага жыцця — і абʼявіўся... у далёкай Азіі. Адтуль ён здымае тэлесюжэты для расійскай службы Цэнтральнага тэлебачання Кітая.

Уласным карэспандэнтам яго называюць і на «Беларусь-1», зʼяўляецца твар Бальшакова і на «Міры».

## Сарвалі мадэрнізацыю: трох супрацоўнікаў Мінэнерга чакае суд

**Паратурбінная ўстаноўка** вылезе турэмнымі нарамі.

Газета «Советская Белоруссія» надрукавала прадстаўленне старшыні Следчага камітэта Валянціна Шаева міністру энергетыкі Уладзіміру Патупчыку.

Справа тычыцца мадэрнізацыі Бярозаўскай ДРЭС. Вясной на гэтую тэму выказваўся асабіста Аляксандр Лукашэнка. Газеты стракацелі загалоўкамі кшталту «Сарваны план мадэрнізацыі Бярозаўскай ДРЭС».

У выніку міністр энергетыкі Аляксандр Азярэц і ягоны намеснік Эдуард Таўпянец былі адпраўленыя ў адстаўку, але нічога не гаварылася, што на другога завялі крымінальную справу. На днях жа ў Следчым камітэце агучылі інфармацыю, што справа прыпыненая і будзе працягнутая, калі Таўпянец вылечыцца ад хваробы (якой — не паведамляецца).

Матэрыялы ж на двух другіх фігурантаў гэтай справы перададзеныя ў суд. «СБ» друкуе прадстаўленне Шаева з перасціярогай іншым чыноўнікам, якім трэба ўлічыць сумны досвед Мінэнерга, асабліва ў пытанні дзяржзакупаў.

На лаву падсудных сядуць былы начальнік упраўлення матэрыяльна-тэхнічных рэсурсаў і вытворчай інфраструктуры «Белэнэрга» Гоўзіч, які быў старшынёй конкурсных камісій па закупе абсталявання для патрэб Бярозаўскай ДРЭС, а таксама былы дырэктар «Белэнергаснабкамплект» Жукаў. На іх, а таксама Эдуарда Таўпянца, заведзеная крымінальная справа па ч. 3 артыкула 426 (перавышэнне службовых паўнамоцтваў).

Махінацыі адбыліся падчас таргоў на закупку паратурбіннай устаноўкі для ДРЭС. Арганізоўваў таргі Жукаў, а Гоўзіч быў старшынёй камісіі. Паведамляецца, што Гоўзіч не даваў слова для выступлення самім заказчыкам, якія былі незадаволеныя прапановай «Цеплаэнергасэрвіс-ЭК» (Екацярынбург).

Пры першым галасаванні па гэтай прапанове шмат членаў конкурснай камісіі ўстрымаліся, тады ў перапынку Гоўзіч далажыў сітуацыю Таўпянцу, які запатрабаваў ад прадстаўнікоў «Белэнерга» і «Белэнергаснабкамплект» галасаваць альбо «за», альбо «супраць».

«Такім чынам, пры правядзенні таргоў было дапушчанае ўмяшальніцтва ў дзейнасць камісіі і ўцечка інфармацыі аб яе працы. Па выніках таргоў Жукавым В.П. зацверджана рашэнне камісіі аб прызнанні пераможцам ААТ «Цеплаэнергасэрвіс-ЭК» на прапанаваных арганізацыяй умовах дамовы, якія не толькі не адпавядалі, але і супярэчылі патрабаванням РУП «Брэстэнерга» як заказчыка», — адзначаецца ў Следчым камітэце.

Жукава, Гоўзіча і Таўпянца абвінавацілі ў лабіраванні інтарэсаў «Цеплаэнергасэрвіс-ЭК».

Эдуард Таўпянец не толькі настаяў на галасаванні ці «за», ці «супраць», але і яшчэ настойліва рэкамендаваў галоўнаму інжынеру «Брэстэнерга» Капскаму ўключыць у спіс прэтэндэнтаў на таргах «Цеплаэнергасэрвіс-ЭК».

Паведамляецца, што лабіраванне інтарэсаў «Цеплаэнергасэрвіс-ЭК» працягвалася доўгі час.

Вось такая паратурбінная ўстаноўка.

**Зміцер Панкавец**



Таўпянца будуць судзіць пасля таго, як вылечыцца.

### Цытата



**«Расейцы нават рэчаў не забралі, а цяпер баяцца прыязджаць»**

«Расійскі менеджмент зʼехаў у такой спешцы, што нават рэчы пакінуў у сваіх кватэрах, і цяпер чамусьці баіцца сюды прыязджаць», — такую інфармацыю прэс-канферэнцыі агучыў гендырэктар «Беларуськалія» Валерый Кірыенка. «Да канца жніўня рынак ажыве і будзе спажываць нашу прадукцыю. Уплыў «Уралкалія» на сусветны рынак вельмі завышаны. У свеце няма вытворцы, які мог бы сам-адзін мяняць сітуацыю на рынку», — упэўнены Кірыенка. Нагадаем, што ў канцы ліпеня адбыўся развод расійскага «Уралкалія» і «Беларускай калійнай кампаніі».


Уладзь Грыдзін

### Фотафакт

**Яроменак атрымаў тры месяцы арышту**

Яго абвінацілі ў парушэнні правілаў прэвентыўнага нагляду (арт. 421 КК). Дзяржабвінаваўца прапанаваў пакараць яго арыштам да 6 месяцаў. Яроменак — маладафронтавец, родам з Мёраў, удзельнічаў у Плошчы, за што быў асуджаны на тры гады. Памілаваны, але з захаваннем прэвентыўнага нагляду.

«Калі ўлады сваімі рэпрэсіямі хочуць мяне запалохаць, гэта ў іх не атрымаецца, — заявіў Яроменак журналістам пасля абвяшчэння прысуду. — Я чалавек упарты».

**Ірына Арахоўская**

# Свіныя бунты крочаць па краіне

Вяскоўцы **адмаўляюцца выдаваць** свіней.

Небяспека поўнага знішчэння свінагадоўлі ў краіне прымушае мясцовыя ўлады дзейнічаць на апярэджанне. Там, дзе вырашаюць дзейнічаць радыкальна, загадваюць знішчыць усіх «прыватных» свіней на працягу пяці дзён.

Аднак нават у суседніх вёсках дазволеныя ўмовы ўтрымання моцна адрозніваюцца. У выніку насельніцтва ідзе на хітрыкі.

У вёсцы Сялец на Бярозаўшчыне каля 150 чалавек сабраліся на народны сход — патрабавалі адмяніць загад райвыканкама аб знішчэнні свіней. «Раён не ўваходзіць у 40-кіламетровую буферную зону ад эпіцэнтра эпідэміі. Навошта біць свіней?» — абураліся яны.

У суседняй вёсцы Кабакі тым часам жыхары сабралі больш за сотню подпісаў з патрабаваннем даць больш часу на знішчэнне свінога пагалоўя. Улады былі вымушаныя змірыцца. А людзі шмат дзе тым часам вывозяць свіней у суседнія вёскі ды хаваюць у сакрэтных месцах.

На Магілёўшчыне, куды чума пакуль не дайшла, улады запатрабавалі здаць свіней на мясакамбінат.

«Нам сельсавет разаслаў паперкі, нікім не падпісаныя. У іх было напісана, што да 11 жніўня падворкам здаць свіней усіх відаў і веку. Мне танней выходзіць адчыніць пуню і выпусціць іх, няхай бягуць на ўсе бакі, чым па дзве тысячы іх здаць», — абуралася карэспандэнту агенцтва БелаПАН адна з жыхарак вёскі Сумарокава.

Найпрасцей вырашылі сітуацыю ў далёкіх раёнах Гомельшчыны.

У Брагінскім раёне ўсіх калгасных свіней знішчылі яшчэ да прыходу хваробы. Зрэшты, іх і было нямнога. А вось у Лоеўскім, Кармянскім, Чачэрскім раёнах калгасных свіней не было і да з'яўлення эпідэміі. Забіваць нікога не давялося.

**Ягор Марціновіч**






**Юрыдычная дапамога**

Палітычныя сілы застаюцца ўбаку ад сітуацыі. Актывізаваліся толькі хрысціянскія дэмакраты. Яны стварылі грамадскую раду па барацьбе з афрыканскай чумой. Ужо працуе гарачая лінія, па якой юрысты кансультуюць вяскоўцаў наконт іх правоў — 8(033) 655-65-04.

## Улады рыхтуюць рэформы на рынку таксі

З патрыманых «Фальксвагенаў» пасажыраў **перасадзяць на «Джылі»**?

Улады рыхтуюць рэформы на рынку таксі, адпаведныя дакументы чакаюць разгляду кіраўніка дзяржавы. Фармальнай нагодай для зменаў з'яўляецца Чэмпіянат свету па хакеі, які абудзецца ў краіне ў 2014.

Таксісты падазраюць, што справа закончыцца банальным пераздзелам рынку. Тым больш што чыноўнікі ўсё часцей агучваюць планы стварэння буйнога дзяржаўнага перавозчыка таксі, пасажыры якога будуць катацца на беларуска-кітайскіх машынах «Джылі».

Грамадскае абмеркаванне праекта ўказа працягваецца ўжо некалькі месяцаў, але змяніць сітуацыю прафсаюзам таксі так і не ўдаецца.

Кіроўцы маюць дзве асноўныя прэтэнзіі. Першая з іх датычыць тэрміну эксплуатацыі аўто. У праекце ўказа пазначана, што ад 1 мая 2014 машыны ў таксі павінны быць не старэйшыя за восем гадоў. На сустрэчы грамадска-кансультатыўнай рады па развіцці прадпрымальніцтва пры Міністэрстве транспарту быў прапанаваны кампрамісны варыянт: павялічыць дазволены ўзрост да дзесяці гадоў. А тым, хто пад нору ўсё адно не падпадзе, дазволіць таксаваць хаця б да 2016 года.

Другое спрэчнае пытанне больш прынцыповае. У праект пастановы Савета міністраў, якая будзе ісці ў камплекце з прэзідэнцкім указам, трапіўся пункт, які вызначае патрабаванні да габарытаў аўто. Удоўжкі машына мусіць быць не меншай за 4,4 метра, а ўшыркі — за 1,7 метра. Маўляў, меншыя аўтамабілі не настолькі камфортныя, каб адпавядаць статусу таксі.

Але пад такія параметры не падыходзіць абсалютная большасць машын на рынку таксі! Магчымасць для выбару аўтамабіля звужаецца, і ў гэтым кіроўцы бачаць лабісцкую пазіцыю расійскіх аўтавытворцаў і таго ж «Джылі».

**ЯМ**

## Самая танная кватэра Мінска падаражэла да $46 тысяч

Яшчэ квартал таму за яе прасілі **на $6 тысяч менш**.

Наколькі даражэе сталічная нерухомасць, можна адсачыць на прыкладах канкрэтных кватэр, выстаўленых на продаж.

Тры месяцы таму «Наша Ніва» пісала пра кошт самага таннага жылля ў Мінску. За аднапакаёўку плошчай 25,3 $м^2$ на вуліцы Мініна ў двухпавярховіку, пабудаваным у 1948 годзе, з «нармальным рамонтам» і драўлянымі падлогамі, тады прасілі $40 тысяч.

Кватэру пакуль не прадалі, але цана на яе ўвесь час расла.

Цяпер яна складае ўжо $46 тысяч.

Пры гэтым жыллё на Мініна засталося самым танным у сталіцы — астатнія недарагія кватэры альбо распрадаліся, альбо падаражэлі яшчэ больш.

На другім месцы ў рэйтынгу самых танных кватэр знаходзіцца аднапакаёўка за $47 тысяч у раёне вуліцы Мендзялеева (прадавалася за $45 тысяч). Яе цана выглядае невысокай — такую самую кватэру ў суседнім доме прадаюць на $5 тысяч даражэй.

За ўсе астатнія кватэры ў Мінску давядзецца аддаць не менш за $50 тысяч.

**ЯМ**

## Сцісла

### Беларусь прыглядаецца да тэрмінала ў Латвіі

«Беларуская нафтавая кампанія» — асноўны экспарцёр нафтапрадуктаў з Беларусі — мае намер пабудаваць ці купіць тэрмінал у Рыжскім порце або порце Вентспілс. Раней «Беларуськалій» за $30 мільёнаў набыў 30% акцый Клайпедскага тэрмінала ў Літве.

### Касавыя аперацыі пад кантролем

З 1 красавіка 2016 усе арганізацыі і ІП-шнікі будуць павінны прымаць грошы з выкарыстаннем кантролю падатковых органаў. Гэта спецыяльная электронная прылада, якая будзе перадаваць звесткі падаткавікам. Прычым і тыя, што прымаюць наяўнымі і безнаяўнымі сродкамі.

### Беларуская АЭС: паліва з Расіі, адходы ў Расію

Адпрацаванае паліва з Астравецкай АЭС будзе вывозіцца ў Расію. А вось радыеактыўныя адходы, якія ўтвараюцца ў працэсе эксплуатацыі станцыі, на працягу дзесяці гадоў будуць захоўвацца ў Астраўцы.

**ЯМ**

# Край Беларусі.

Трэцяя частка праекта фатографа «Нашай Нівы» **Сяргея Гудзіліна** аб ускрайкавых гарадах краіны.




Рэха былой раскошы: у краму — на «Мерсэдэсе».

**«У 90-я тут было шыкоўна. Можна было вазіць і прадаваць паліва ў Польшчу і спакойна мець 300—350 даляраў у дзень»**

«Чакайце мяне каля банка, я зараз пад'еду», — неяк па-бізнэсоўску хутка сказаў голас у мабільніку. Я нават не паспяваю адказаць, як чую ў слухаўцы сігнал скончанай размовы. Іду па вуліцы горада Высокае. Гадзіну таму я быў у Брэсце, а цяпер — за 7 кіламетраў ад мяжы з Польшчай. Вечаровы аўтобус прывёз мяне ў самы заходні горад Беларусі.

Невялікая рачулка Пульва фармальна дзеліць Высокае на дзве часткі — на новы мікрараён з пяціпавярховікамі і гістарычны цэнтр з руінамі сінагогі, рынкавым пляцам і прыватным сектарам. Трохі ўбаку застаецца старажытны заросль парк Сапегаў і руіны ўязной абарончай брамы. Там цяпер зона адпачынку і стадыён. У цэнтры — сквер з помнікам загінулым партызанам і праваслаўны крыж. Побач аблуплены будынак гарсавета з жыццесцвярджальным вітражом, Дом культуры, царква і помнік Леніну.

За савецкім часам Высокае было райцэнтрам аж да 1962 года. Рысы заходняга ладу жыцця з беларуска-габрэйска-польскага мястэчка тут выціраліся доўга — калгасы саветы сагналі толькі ў сярэдзіне 50-х. У наступныя гады сацыяльна-эканамічная актыўнасць адсоўвалася падалей ад «ненадзейнай» Польшчы — на ўсход. Развал СССР заспеў Высокае простым перыферыйным гарадком, які паступова станавіўся вёскай. Але ў 90-я гады закрытая мяжа з заходнім камунізмам імкліва ператварылася ў адкрытую мяжу з заходнім капіталізмам. Рынкавы сацыялізм тагачаснай Беларусі паспрыяў фармаванню тут новай сацыяльна-эканамічнай сітуацыі...



У касцёле ў Высокім вісіць калекцыя старасвецкіх арнатаў.

Стаю каля новага будынка «Беларусбанка». Вечар. Спёка за трыццаць. Дамкі паабапал вуліц хаваюцца ў зеляніне. Машын, што праязджаюць, на вуліцах сустракаю больш, чым мінакоў — гэта кідаецца ў вочы адразу. З-за паваротка вырульвае шыкоўны «Мерсэдэс» С-класа. У расхрыстанай кашулі, з немалым залатым крыжам на шыі, выходзіць жвавы дзядзечка, які прадставіўся Васілём Васільевічам. «Хадзем. Зараз пакажу, дзе будзеш жыць».

Заходзім у двор даваеннага двухпавярховага дамка з сучасным рамонтам — лесвіцы і балкон аздоблены барочнымі парэнчамі з бетону, праўда, недзе ён лопнуў... У Васіля Васільевіча я здымаю кватэру для падрыхтоўкі гэтага рэпартажу. У 5-тысячным Высокім няма дзяржаўнага гатэля, але ёсць кватэры для арэнды на «суткі і гадзіны» — так напісана на папяровым аркушыку-візітоўцы, які мне і ўручыў Васіль Васільевіч. За 180 тысяч у суткі я здымаю частку дома з пакоямі на двух паверхах, кухню з аркамі і барнай стойкай — апартаменты, не горшыя, чым у сталіцы для прыезджых на майскія святы рускіх турыстаў.



Руіны ўязной брамы.



Прыпынкі ўпрыгожаны мазаікамі яшчэ з савецкіх часоў.

**Памежны бізнес шалёных 90-х**

Першае ўражанне ад Высокага — гэта нейкая дзіўная еўрапеізаваная Беларусь прыватнікаў на фоне абшарпанага дзяржаўнага бязладдзя. Ледзь не ў кожным двары стаіць па іншамарцы, а то і па дзве. Даваенныя цагляныя дамкі аблепленыя спадарожнікавымі антэнамі і «пабагатаму» зашаляваны сайдынгам. У некаторых дварах роўна пакошаны газон. На трохі больш чым 5 тысяч жыхароў Высокага — каля 40 прыватных прадуктовых крамаў. Уся сфера абслугоўвання тут — у руках прыватнікаў. Але гэта ўжо толькі рэха іншага, больш прыбытковага бізнесу, які цяпер недаступны для высокаўскіх «бізнэсоўцаў».

У 90-я і амаль усе «нулявыя» тут квітнеў народны гандаль палівам з палякамі — асноўная крыніца даходу рашучых высокаўскіх гараджан. «Можна было па 500 даляраў у дзень рабіць», — настальгічна расказвае мне Васіль Васільевіч, калі мы прагульваемся па шырокай вуліцы старой часткі горада. Ад старога тут, канечне, адна назва — «польскія» будынкі

## Гэта нейкая дзіўная еўрапеізаваная Беларусь прыватнікаў

# Захад: Высокае




**Высокае**

Высокае знаходзіцца на паўднёвым захадзе Беларусі ў Камянецкім раёне, да Брэста адсюль каля 40 кіламетраў. Горад вядомы з XIV стагоддзя і меў назву Высока-Літоўск. У 1494 Аляксандр, сын Казіміра, Вялікага князя Літоўскага, падарыў гораду Магдэбургскае права. Ім валодалі Храптовічы, Едкавічы, Война. У 1647 горад з прылеглымі вёскамі выкупляе гетман ВКЛ Павел Ян Сапега. Ад гэтага часу пачынаецца яго росквіт — будуецца замак з абарончымі збудаваннямі, закладаецца касцёл, адкрываецца гандлёвая плошча. Да прыходу Чырвонай Арміі ў 1939 Высока-Літоўск налічваў больш за 6 тысяч жыхароў, пасля гэтую «еўрапейскую» назву змянілі на Высокае, а старую пакінулі за невялікай чыгуначнай станцыяй, якая знаходзіцца за тры кіламетры ад горада. Апошнім прыватным уладальнікам Высока-Літоўска быў Якуб Патоцкі.

безгустоўна пераробленны пад камфортны лад жыцця высачан. Дзенідзе вокны закладзены цэглай, пад фарбай сцен праступаюць сілуэты дзвярэй, якія калісьці тут былі. «Я набыў сабе габрэйскі будынак 1703 года, але па дакументах ён ідзе як 1939-га — саветы перапісалі па-свойму. Будую тут невялікі гатэль і бар», — хваліцца перада мной Васіль Васільевіч і паказвае на будоўлю за плотам. На таўшчэзных старасвецкіх арках я бачу надбудову другога паверха. Бізнэсовец будуе гэта з разлікам на памежную інфраструктуру і чакае адкрыцця тут памежнага пераходу і новых транспартных плыняў.



### «Міліцыю расфармавалі, а будынак здалі пад офісы. У КПЗ — рамонт абутку»

Раніца. Субота. Паабапал сквера збіраюцца гандляры садавінай і гароднінай. Мой наступны суразмоўца — мужчына за 40 — прасіў не ўзгадваць яго імя, але расказвае сакрэты высокаўскага поспеху: «У 90-я тут было шыкоўна. Можна было проста, без кантрабанды, вазіць і прадаваць паліва ў Польшчу і спакойна мець 300—350 даляраў у дзень. Усё, што ты тут бачыш, пабудаванае ці адрамантаванае — гэта за кошт таго бізнесу. У мяне і шмат у каго ў той час былі старэнькія джыпы-патролы з «маленькім» бакам пад 200 літраў. Так і жылі — дзень ездзіш туды-сюды, а на наступны можаш з цыгарэтай адпачываць. У пачатку 90-х, калі з краін сацыялістычнага блока выводзілі войскі, цягнікі ішлі не праз Брэст, а праз станцыю Высока-Літоўск. Зброі было тут поўна — ліхія і залатыя часы. Пасля таго як зачынілі мяжу, усё абвалілася — палова горада працуе у Брэсце. Горад паступова пусцее, хоць і прадпрымальніцкая жыла тут моцная — прыватнікаў шмат. Міліцыю расфармавалі, а будынак здалі пад офісы. У КПЗ — рамонт абутку. Пакінулі толькі трох участковых з машынай. Тыя, хто паспеў назбіраць нейкі капітал, альбо з'ехалі, альбо спрабавалі наладзіць нешта тут, але гэта ўжо не тое...» — з прысмакам настальгіі па лепшых часах прамаўляе мой суразмоўца і абапіраецца на дах старэнькага «Масквіча», на капоце якога раскладзены мёд на продаж, цяпер у яго толькі такі бізнес...






На тэрыторыі палаца мясцовыя жыхары назапашваюць сена.



Густоўнае вяселле на фоне баракаў.

### «У нас тут рускія і казахі скупляюць дамкі, потым прыязджаюць на канікулы»

Пенсіянер Аляксей Іванавіч вядзе з выгану сваю карову. Дарога пралягае праз старажытны зарослы парк з руінамі палаца. Па ўсім перыметры ансамбля захавалася агароджа з чырвонай цэглы — вышыня даходзіць да двух метраў. У тое месца, дзе агароджа абвалілася, Аляксей Іванавіч гоніць карову і такім чынам зразае дарогу да свайго хлява...

«Ніхто не хоча трымаць гаспадарку. На ўвесь горад — некалькі кароў толькі», — скардзіцца высокаўскі пенсіянер. Праходзім руіны брамы, і Аляксей Іванавіч працягвае: «Шыкоўны парк быў. Прыгожы. Я на флоце служыў, тут ёсць нават дрэвы для карабельных мачтаў. Расло чырвонае дрэва, потым камуністы паразразалі ўсё, каб сабе мэблю зрабіць. Аднаго разу я малы прыходжу з бацькам да нейкага начальніка, а ў яго крэслы з чырвонай драўніны».

Пасля Аляксей Іванавіч пераходзіць да прыватнай справы: «Вось ты там у Мінску бываеш, знайдзі мне купцоў — хачу дом у суседняй вёсцы прадаць. БТІ ацаніла ў 55 мільёнаў, калі знойдзеш кліента — 5 табе аддам. У нас тут рускія і казахі скупляюць дамкі, потым прыязджаюць на канікулы — грыбы, рыбалка і мяжа з Польшчай побач. Але знайдзі мне толькі рускіх ці казахаў — у іх грошай шмат...».

Апошні дзень у Высокім. Прагульваюся побач з руінамі ўязной брамы — яна разбураная і парослая зверху маладымі дрэўцамі. На вежах у нарослых кустах хлопцы п'юць піва... Старасвецкія перабудаваныя дамкі праводзяць мяне размаляванымі графіці і дастаткова якасным стрыт-артам, які невядома кім тут намаляваны.

Аповеды мясцовых пра памежны бізнэс і лёгкія грошы ствараюць адчуванне, што некалі з Высокага з'ехалі ці кудысьці зніклі ўсе неактыўныя і непрадпрымальныя жыхары. Гэта не было акно ў Еўропу для Беларусі — хутчэй прыадчыненая фортка, праз якую можна было ўцягнуць сюды трохі дабрабыту. Цяпер і яна зачыненая. І рысы прадпрымальнасці і дабрабыту ў Высокім паступова абрастаюць цвіллю паныласці, якая ператварае гэтае мястэчка ў тыповую перыферыю, край Беларусі, хай сабе і на захадзе.

**9 — 12.08.2013. Мінск — Брэст — Высокае — Мінск.**

*Першую частку «Поўнач: Асвея» чытайце ў «НН» №12 ад 28 сакавіка 2012. Другую частку «Поўдзень: Камарын» — у «НН» №23 ад 20 чэрвеня 2012. А таксама на сайце nn.by.*



Мясцовыя жыхары ловяць ракаў у рэчцы Пульве, якая дзеліць Высокае на дзве часткі.

# Жонка светлагорскага мэра пакрыўдзілася на відэаролік пра свой дом

Міліцыя **забрала** ў аўтара **камп'ютар** на праверку.

Грамадскі актывіст Генадзь Жулега ў пачатку жніўня ўскалыхнуў жыхароў Светлагорска ролікам пра дом мясцовага старшыні райвыканкама Сяргея Максіменкі. Аматарскае відэа сабрала больш за 30 тысяч праглядаў.

Прагульваючыся з відэакамерай вакол прадстаўнічага катэджа на вуліцы Савецкай каля Бярэзіны, ён расказаў пра ўнушальны дом з лазняй многае. Удакладніў нават, колькі каштуе душавая кабіна ў санвузле старшыні райвыканкама і ў якім рэжыме у ёй можна прымаць душ. Не цураючыся выразаў, Жулега задаецца рытарычным пытаннем: чым азадак чыноўніка лепшы за азадка грамадзяніна?

А праз паўтара тыдня да актывіста завіталі госці з міліцыі. З санкцыі пракурора у яго правялі агляд кватэры, а пасля звезлі з сабой камп'ютар і мадэм.



Як растлумачылі міліцыянты, жонка старшыні райвыканкама напісала на Жулегу заяву. Маўляў ролік, размешчаны ў інтэрнэце, зняславіў гонар і годнасць яе сям'і, а інфармацыя на відэа мае паклёпніцкі характар.

Што Жулега меў на увазе, расказваючы пра тое, што «мэр не скраў грошы і не атрымаў хабару, а проста пабудаваў дом за бюджэтныя сродкі»? Як ён збіраецца аргументаваць сваю пазіцыю ў судзе?

Жулега спасылаецца на рашэнне, прынятае Гомельскім аблвыканкамам яшчэ ў 2003 годзе. Тады быў створаны спецыяльны службовы жыллёвы фонд для мясцовай эліты — сямі абласных кіраўнікоў (пракурор, старшыня КДБ, галоўны суддзя і гэтак далей), а таксама двух дзясяткаў раённых начальнікаў. Кожны з іх мог прэтэндаваць на кватэру (плошчай да 120 м2) ці катэдж (да 150 м2).

Права на будаўніцтва за бюджэтныя грошы, адпаведна, меў і Сяргей Максіменка.

Будаўніцтва катэджа мусіла каштаваць бюджэту не больш за $67,5 тысячы без уліку падвядзення камунікацый. На мэблю і тэхніку кожнаму чыноўніку выдавалася яшчэ да $17 тысяч. Адметна, што ў рашэнні аблвыканкама цэны ўказваліся ў далярах, а не ў рублях.

Прычым катэдж пачаў будавацца яшчэ пры папярэдніку Максіменкі. Аднак той пракіраваў Светлагорскім раёнам каля паўгода і з сямейных прычын з'ехаў. Дабудоўваць давялося Максіменку.

Аднак правоў на службовае жыллё ніводзін з чыноўнікаў мець не можа — ні прыватызаваць, ні падзяліць, ні нават перадаваць. У выпадку звальнення давядзецца выселіцца на працягу месяца.

**Ягор Марціновіч**



СЯРГЕЙ ЗІНІН

**Фотафакт**

### Прадстаўніца Гвадэлупы самлела на Miss Supranational-2013

У Мінску пройдзе міжнародны конкурс прыгажосці Miss Supranational-2013, які ладзіць канал АНТ. Удзел возьмуць больш за 70 прыгажунь. На першай прэс-канферэнцыі адбыўся невялікі інцыдэнт. У зале было душна, і прадстаўніца Гвадэлупы самлела, і яе вынес на руках ахоўнік, яшчэ дзве дзяўчыны выйшлі самі, абмахваючыся рукамі. Беларусь на конкурсе прадстаўляе 17-гадовая гамяльчанка Вераніка Чычына.

**Сяргей Зінін**

# Азаранка перамагла адвечную суперніцу

**Беларуска выйграла** турнір у амерыканскім Цынцынаці.

Супердраматычны фінал разыгралі Азаранка і Серэна Уільямс у штаце Агаё. Першы сэт упэўнена застаўся за прадстаўніцай ЗША — 6:2. Другі з такім самым лікам выйграла беларуска.

У апошнім справа дайшла да тай-брэйку (тэнісных пенальці), дзе ўдача ўсміхнулася Вікторы — 8:6. Гэта ўсяго толькі трэцяя перамога беларускі над малодшай з сясцёр Уільямс.

Раней Азаранка безумоўна прайгравала амерыканцы ў магутнасці. Так, напрыклад, было ў паўфінале Алімпіяды. Але за гэтыя два гады Віка істотна дадала ў мышачнай масе і фізічнай сіле, і перавага суперніцы стала не настолькі відавочнай.

Дарэчы, за перамогу ў Цынцынаці Азаранка атрымае 426 тысяч даляраў. Беларуска працягвае знаходзіцца на другім месцы ў рэйтынгу, але адставанне ад Серэны крыху зменшылася.

**Зміцер Панкавец**





**Камертон Сяргея Ваганава**

## Незабыўны Гучы, альбо Пара ў свісток

Тыдзень таму я ўзгадваў пра віленскую таўкучку 70-х гадоў мінулага стагоддзя. Але ў памяць штурхаўся і амерыканскі флі маркет — блышыны рынак, барахолка — як што каму...

Штурхаўся ў памяць жнівень 1991 года, у душным марыве Балтымор...

Тая паездка — па запрашэнні газеты «Балтымор сан» — адбылася адразу пасля танкаў у Маскве і жнівеньскага путчу, што, безумоўна, выклікала да нашай журналісцкай дэлегацыі асаблівы інтарэс: сустракалі як герояў...

У сям'і Лінды і Тэда Шэлсбі я апынуўся разам з Анатолем Рэпіным, маім сябрам і журналістам-міжнароднікам.

Ну, што такое — сем дзён? Амаль нішто, каб прэтэндаваць нават на павярхоўнае веданне амерыканскага жыцця. Але вось сям'я, дом — гэта зусім не нішто, каб зразумець хаця б нешта...

На першы погляд, гэта быў звычайны, на два паверхі, дом, такі, што суседнічаюць на ціхай вулачцы Уімслоў-роўд. Але кожны раз, прачынаючыся і ўглядваючыся ў слізгаючае з-пад жалюзяў ранішняе паўсвятло, я адчуваў дзіўную блізкасць да гэтага дома і рэчаў наўкол: старога куфра ў каваным пераплёце, надзейна збітую камоду, што сталася па вуглах цёмнай ад часу, крэсла-качалкі з паўсцёртымі падлокцямі, радыёпрымача і друкаркі з 1930-х.

Спачатку я вырашыў, што Лінда і Тэд, выхадцы з фермерскіх сем'яў, атрымалі старыя рэчы ў спадчыну. Але нават калі даведаўся, што ўсе яны прыдбаныя на танных нядзельных распродажах, што ладзяцца на блышыным рынку, я не адчуў расчаравання ад сваёй памылкі, адзначыўшы тое, што можна назваць духоўнасцю. То бок тым асаблівым станам душы, калі ўсё, што кімсьці, а насамрэч краінай, пражыта да цябе, не пыліцца на цьмяных паліцах свядомасці, а жыве, дыхае, хвалюе працягам свайго жыцця, ідзе ў працу пакаленняў, што жывуць у сваёй гісторыі як ва ўласным доме, нічога не выкідаючы з яго, не руйнуючы і не ператвараючы ў непатрэбнае гістарычнае смецце...

Вось з такім адчуваннем і жаданнем нешта прыдбаць на апошнія грошы я адгукнуўся на прапанову наведаць у нядзелю блышыны рынак.

З раніцы я дастаў з чамадана чыстую цішотку. Чорную, з яркай лямоўкай «GUCCI», і жвава сышоў па рыпучай лесвіцы ў кухню-сталовую, дзе Рэпін ужо чытаў «Балтымор сан», а Тэд смажыў яечню. Падчас снедання Тэд неяк дзіўна глядзеў на мяне, пакуль, дапіўшы каву, не спытаў: «Адкуль у цябе гэта?» — «Гэта?» — не зразумеў я. «Ну, так. Гучы... І ты збіраешся на флі маркет?!»

Я зусім заблытаўся, а Тэд пачаў нешта доўга тлумачыць Рэпіну... «Разумееш, у чым справа? — усміхнуўся Рэпін. — Справа ў тым, што Гучы — сусветна вядомы італьянец, мадэльер самага моднага адзення і ўладальнік вялізнай сеткі страшна дарагіх магазінаў. (Адкуль тады мне было гэта ведаць? — **С.В.**). У Балтыморы ягоны магазін пратрымаўся не больш за паўгода — не знайшлося кліентаў. А ты — на барахолку... Тэд кажа, што прадаўцы выраашаць, што ў цябе поўна грошай, і ўзнімуць цану...» — «Нічога, — махнуў я рукой, — хай ведаюць нашых...» Рэпін у апошні момант не паехаў, а мы з Тэдам улезлі ў падношаны «вольва» і пасля нядоўгай язды ўехалі на агромністую пляцоўку, ледзь адшукаўшы месца сярод распечаных балтыморскім сонцам металічных целаў. І адразу, без затрымкі, каб агледзецца, аказаліся ўцягнутымі ў нейкі святочны людаварот.

### І тут я ўбачыў чайнік. Нават не сам чайнік, а яркі сонечны водбліск

Тэд прынаджваў мяне ўсё далей і далей, пакуль, злёгку ашалелы, я не ўтыкнуўся ў вяліківаласаты палец і не пачуў хрыплы бас: «Гучы? Хаў мач?» Перада мной стаяў дужы мужык у зашмальцаваным каўбойскім капелюшы і стракатай, у клетку, кашулі, расшпіленай да пупа. Лыпаючы бялявымі вейкамі з-пад такіх жа бялявых броваў, ён шырока шчэрыў белазубы рот на бронзава-рудым, суцэльна рабым, твары, тыкаў пальцам у мае грудзі і паўтараў: «Хаў мач?»

«Ноў, ноў», — замахаў рукамі Тэд. Абодвух нас душыў смех. Мужык, нічога не разумеючы, нешта выбачальна мармытнуў, адышоў убок і грузна сеў на раскладное драўлянае крэсла.

І тут я ўбачыў чайнік. Нават не сам чайнік, а яркі сонечны водбліск. Божа мой, з якіх гарышчава-куфравых нетраў былі выцягнуты ўсе гэтыя медныя філіжанкі, конаўкі, каганцы, лыжкі, латушкі, ступкі, млыначкі на чале з чайнікам, што зеляней акісласцю вакол дна?! Я ўзяў чайнік у рукі, чамусьці намагаючыся сцягнуць з шырокага носа такі ж медны свісток. Гаспадар, ссунуўшы капялюш на патыліцу, насмешліва жмурыў погляд, назіраючы за маімі намаганнямі. Потым, мусіць, злітаваўся, забраў чайнік, абхапіў ягоны нос шырокай далоняй і, без усялякіх намаганняў сцягнуўшы свісток, прыставіў яго да рота. Прагучала сіпаватая трэль.

«Уан долар!» — ён пяшчотна прытуліў чайнік да грудзей.

«Ес, ес, — замармытаў я, — сэнк ю веры мач...»

Гляджу я на гэты чайнік, успамінаю, як сіпеў яго свісток у губах такога ж меднатварага каўбоя, і пытаюся ў самога сябе: навошта?

Навошта было ўводзіць у Маскву танкі, калі з цягам часу ўся пара і без путчу выйшла ў свісток...

# Уладзімір Арлоў: Мая доля неўміручасці

25 жніўня **60 гадоў** спаўняецца пісьменніку, гісторыку Уладзіміру Арлову. Напярэдадні аўтар адказаў на некалькі пытанняў «Нашай Нівы».



**Даваў аўтографы беларускамоўным палкоўнікам КДБ**

Фота зробленае падчас жнівеньскай вандроўкі па Прыпяці.

ПАВЕЛ ЛЯХНОВІЧ

**«Наша Ніва»: Ці будзеце Вы адзначаць 60-годдзе? Увогуле, у Вас прынята адзначаць дні нараджэння? Калі так, то мо ўзгадаеце самы памятны з іх і самы памятны падарунак?**

**Уладзімір Арлоў:** Зрабіць выгляд, быццам нічога не здарылася, было б не зусім па-мужчынску. Прыход на свет — галоўная падзея жыцця. Цяжка не пагадзіцца з Платонам: нараджэнне ёсць той доляй неўміручасці і вечнасці, якая дадзеная смяротнай істоце.

Мне даводзілася сустракаць гэты дзень і на самоце, і ў вандроўцы далёка ад дому, але я ніколі не забываў яго адзначыць — хаця б няспешнай размоваю з самім сабой.

З гадамі чалавек нібыта ўсё бліжэйшы да багоў, герояў і дэманаў, і людзі цікавяць яго ўсё менш. Пакуль што не магу сказаць тое пра сябе. Прынамсі, людзі працягваюць цікавіць мяне, і некаторых з іх я хачу абавязкова ў апошнія жнівеньскія дні ўбачыць.

Дадам, што з 2008 я адзначаю і другі свой дзень нараджэння — 6 лістапада. Тады я — ужо з інфарктам і трамбам, што затаіўся ў адной з артэрыяў — нейкім дзівам даляцеў з Лондана і ў Мінску адразу трапіў у рэанімацыю. Кардыяхірург Алег Паланецкі вярнуў мне адабраны рэаніматолагамі тэлефон і даў дзесяць хвілін да пачатку тэрміновай аперацыі.

У Віславы Шымборскай ёсць перастрованы Андрэем Хадановічам верш «Заўтра без нас»:

> ...Наступны дзень
> абяцае быць сонечным,
> хоць тым, хто будзе жыць далей,
> яшчэ спатрэбіцца парасон.

Як бачыце, парасон мне дагэтуль патрэбны. Вось і адказ на другую частку Вашага пытання — пра самы памятны дзень нараджэння і самы памятны падарунак.

**«НН»: З кім з гістарычных асоб Вам хацелася б у гэты дзень выпіць куфаль піва і пагаварыць пра жыццё?**

**УА:** Хацеў бы сустрэцца з трыма жанчынамі: Дамінікай з майго апавядання «Тры мужы спадарыні Дамінікі», безыменнай шляхцянкаю з аповесці «Сны імператара» і пані Людвікаю з «Рандэву на манеўрах». І піў бы мы, бясспрэчна, не піва.

**«НН»: Я ведаю, што кожнае лета Вы выпраўляецеся на беларускія выспы. Чаму на іх, а не на Мальту, Кіпр ці Тэнэрыфе?**

**УА:** Выспа павінна быць бязлюднай. Тады, калі высаджваецца наша сябрына, там — няхай усяго на пару дзён — утвараецца свой, заўсёды непаўторны свет, у якім мы ўсе разам сапраўды ляцім да зор.

Я бываў на Кіпры, але на Асвейскай выспе, далібог, спадабалася больш. Хіба ў Ларнацы або Лімасоле да вас прыйдзе знаёміца сям'я ваўкоў? А тамтэйшыя вялізныя здзічэлыя сады! Калісьці з выспы выселілі на бераг цэлую вёску — каб нарэшце ўсталяваць у ёй савецкую ўладу. Але засталіся сады, падмуркі, магілы. І, вядома, душы былых астраўлянаў. Мне там увесь час прыходзілі на памяць «Марсіянскія хронікі» Рэя Брэдберы.

**Уладзімір Арлоў**

Нарадзіўся ў 1953 у Полацку. Пісьменнік, гісторык. Скончыў гістфак БДУ. Працаваў у газеце «Хімік», выдавецтве «Мастацкая літаратура», часопісе «Крыніца». Аўтар больш дваццаці кніг прозы, паэзіі, эсэістыкі. Разам з мастаком Змітром Герасімовічам уклаў кнігу «Краіна Беларусь». Жанаты, мае двух сыноў.

**«НН»: Спадар Уладзімір, Вы нястомны падарожнік. Якія самыя незвычайныя месцы Вам даводзілася бачыць у Беларусі?**

**УА:** Незвычайныя мясціны? З адной толькі днямі вярнуўся: замацоўваў на Прыпяці, паміж Пінскам і Туравам, свае веды ў кіраванні пераробленым у яхту вельботам. У небе бачылі сціжму буслоў, напэўна, сотні дзве птушак, што менавіта 25 жніўня і выпраўляюцца ў вырай. А ў Тураве анёлы ноч навылёт атрасалі на дах адрынкі спелыя грушкі.

Што натхняе найбольш? Мае чытачы ведаюць: палацкае возера з глыбокім прыцемна-таямнічым імем — Люхава, з якім я ўсё жыццё адчуваю магутную трансцэндэнтальную сувязь. З дзяцінства памятаю, як па дарозе на Люхава зусім неістотныя, здавалася б, рэчы набывалі шматмернасць, вырасталі да сімвалаў, надоўга ўзбунтоўвалі душу. Мне бывае смешна чытаць пра маё возера ў энцыклапедыях: я ведаю, што праўда, дый то даволі адносная — толькі яго геаграфічныя каардынаты.

Тут асабліва адчуваеш час, што ператварае дні ў даты, гады — ва ўгодкі, людзей — ва ўспаміны, біяграфіі — у бібліяграфіі, а ты працягваеш плыць па яго рацэ і часам нават спрабуеш паварочваць супраць плыні.

Калі бяру ў старога знаёмага Васіля човен і кіруюся да самага вузкага месца, пратокі, дзе некалі быў мост, насустрач абавязкова вылятае пара шэрых чапляў.

Неяк я начаваў тут, на касе, прышвартаваўшыся да ацалелай палі. Усю ноч скрозь сон чуў, як рыпяць на мосце колы, як паганяюць коней, прыцішана гавораць і смяюцца людзі. Прачнуўся і зразумеў, што мая апошняя дарога таксама абавязкова пройдзе праз люхаўскі мост.

**«НН»: Вы аб'ездзілі з сустрэчамі ўсю Беларусь. Потым быў час, калі трапілі ў «чорны спіс». А што цяпер, ці магчыма ладзіць сустрэчы?**

**УА:** Апошнім часам значна больш чуваць было пра «чорныя спісы» музыкаў, у якіх, здаецца, застаўся ўжо адзін Змісер Вайцюшкевіч. А значна даўжэйшыя пісьменніцкія спісы па-ранейшаму ў сіле. Я, да прыкладу, ужо забыўся, калі сустракаўся з чытачамі ў мінскіх бібліятэках. Відаць, у мінулым стагоддзі. Тое самае можна сказаць пра філалагічны факультэт БДУ і ўсе астатнія філфакі.

Але ў мяне ёсць чытачы, а таму выступы — і легальныя, і не зусім — безумоўна адбываюцца. З нядаўніх магу згадаць фантастычную паездку ў лясны скаўцкі летнік..

Я з тых літаратараў, каму, відаць, проста неабходна адчуваць тое, што называецца зваротнай сувяззю з чытачамі. Буду ездзіць — пакуль ляціць страла.

**«НН»: А ці ёсць сярод Вашых чытачоў людзі, якія сёння ва ўладзе? Можа, даходзілі нейкія факцікі. Здаецца, некалі ж і Аляксандр Лукашэнка дарыў таленавітай моладзі Вашу са Змітром Герасімовічам «Краіну Беларусь».**

**УА:** Той самы персанаж аднойчы абвяшчаў праз тэлевізар дыктоўку для ўступных экзаменаў — «Скарына ў Падуі» — паводле маіх «Таямніцаў полацкай гісторыі». Аніякай радасці я не адчуў: тэкст быў надзвычай цяжкі і паводле лексікі, і паводле пунктуацыі.

Не думаю, што ў звязку са згаданай Вамі гісторыяй пра таленавітую моладзь, але нашы са Змітром Герасімовічам «Краіна Беларусь» і «Вялікае Княства Літоўскае» сапраўды займелі чытачоў з уладных і ўвогуле дзяржаўных структураў. Беларускае і англійскае выданні «Краіны» я падпісваў некалькім айчынным дыпламатам. Пасля прэзентацыі «Княства» да мяне падышоў чалавек у строгім гарнітуры. Ён адрэкамендаваўся і працягнуў паперку з узгодненым тэкстам аўтографа для шэфа: віцэ-прэм'еру такому і такому з пажаданнем таго і таго. Я прапанаваў на ўсякі выпадак не пісаць пасаду: маўляў, цяпер чалавек пры ўладзе, а заўтра невядома дзе. Ідэя не надта спадабалася, аднак чалавек у гарнітуры кудысьці патэлефанаваў і недзе там пагадзіліся. Яшчэ на адной прэзентацыі ў абласной бібліятэцы аўтографы ўзялі два беларускамоўныя палкоўнікі КДБ з першага рада. Мне ўяўляецца, што людзі з усіх гэтых структураў з розных меркаванняў, але хацелі б мець у сваіх бібліятэках своеасаблівы гістарычны пашпарт краіны, якой яны, як умеюць і як могуць, служаць.

## На Асвеі мне падабаецца больш, чым на Кіпры



Увогуле ж, чытацкая аўдыторыя — шматслойны пірог, і самы дарагі для мяне слой у ім — моладзь. Прычына відавочная.

**«НН»: Так здаралася з беларускімі і не толькі літаратарамі, што яны сыходзілі ў палітыку. Ці няма ў Вас такога жадання?**

**УА:** Няма. Зрэшты, у сучаснай Беларусі ў палітыку ператвоpанае, па сутнасці, усё, да чаго я маю дачыненне, — літаратура, гісторыя, праблемы мовы...

**«НН»: Дарэчы, чаму Вы не прысутнічаеце ў інтэрнэце? Ні блога не маеце, ні старонак у сацыяльных сетках?**

**УА:** Пакуль што мне хапае таго, дзе я прысутнічаю. Хоць чуткі пра маю поўную адсутнасць у сеціве крыху перабольшаныя: вось днямі пачаў ажываць сайт. Не верыце — набярыце arlou.org.

**«НН»: Асабіста я як чытач хачу пабачыць і пачытаць вялікі раман ад Уладзіміра Арлова. Можна спадзявацца?**

УА: І я спадзяюся.

**«НН»: Чаму Вы ўвайшлі ў журы прэміі Гедройца? Няўжо самому як аўтару не хочацца атрымаць гэтую прэмію?**

**УА:** У сувязі са сказаным вышэй разлічваю, што ў нейкі момант з «суддзі» ператваруся ў «падсуднага».

**«НН»: Раней Вы казалі, што твор «Незалежнасць — гэта...» самы папулярны сярод тых, што просяць прачытаць на сустрэчах. А Вы лічыце, што незалежнасць — гэта ўжо назаўсёды, ці яе трэба працягваць пільнаваць?**

**УА:** Незалежнасць — гэта назаўсёды найвялікшая каштоўнасць для нацыі, бо без яе нацыя не здольная выканаць сваю гістарычную місію ці, калі хочаце, Божае наканаванне. Ад нашай жа незалежнасці кожны дзень адшчыкваюць па драбку, а часам і адгрызаюць цэлы шмат.

Незалежнасці не будзе без гістарычнай памяці, а цяперашняя ўлада будуе «лінію Сталіна» ды яе філіялы, не «плануючы» ставіць помнік Каліноўскаму. Незалежнасці не будзе без мовы, а няўхільна скарачаецца беларускамоўнае навучанне. Я выдатна разумею, што Беларусь ніколі не была і не будзе моналінгвістычнай, гэтаксама як не была і не будзе монакультурнай і монаканфесійнай. Але ж мы ёсць сведкамі штодзённай дыскрымінацыі менавіта мовы тытульнай нацыі.

Колькі мы чулі пра новы беларускамоўны канал! Усе абяцанкі аказаліся цынічнай хлуснёй. Можна дзень пры дні раз-пораз уключаць «Беларусь-3» і не сустрэць анічога ні беларускамоўнага, ні наогул беларускага хаця б тэматычна. Затое вас чакаюць здзеклівыя неспадзяванкі. Ідзе мульцік паводле казкі Уладзіміра Караткевіча «Чортаў скарб»: цітры праплылі па-беларуску, а фільм дубляваны на рускую мову...

Але не дачакаюцца. Мова перажыве і цяперашнюю хвалю русіфікацыі.

**«НН»: І апошняе. Што б самі пажадалі сабе на гэты дзень нараджэння?**

**УА:** Паспець, пакуль не сустрэнуцца канцы маёй бясконцасці.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

**Рэдакцыя «Нашай Нівы» далучаецца да віншаванняў.**

# Датанцавалася…

**Беларуска трапіла ў палон да сірыйскіх паўстанцаў.**

У інтэрнэце гуляе відэа, дзе маладая жанчына пад дуламі аўтаматаў прызнаецца ў шпіёнстве на карысць шыіцкай групоўкі «Хезбалах». Завуць дзяўчыну Святлана Маркіяновіч, а родам яна з Жодзіна.

Святлане — 30 гадоў. Яе асоба дастаткова загадкавая. У жанчыны не знайшлося сяброў ні ў рэальным жыцці, ні ў сацыяльных сетках. Родныя не ведаюць, чым яна дакладна за мяжой займаецца: кажуць, што перыядычна выязджае некуды на пару месяцаў. Апошні раз ад'ехала ў чэрвені. Нават бабуля, з якой яна жыве, пра асабістае жыццё ўнучкі нічога сказаць не можа. Некалькі гадоў таму ў Святланы памерла маці.

Бацькі Святланы развяліся, калі яна была дзіцем. З уласнай сям'ёй у яе таксама не склалася. Выйшла замуж, у 2007 нарадзіла сына. Але за неналежны догляд у яе забралі бацькоўскія правы, а дзіця аддалі ў прытулак. У хлопчыка ўжо новая сям'я.

Па лепшае жыццё жанчына паехала за мяжу. Па інфармацыі беларускага Міністэрства ўнутраных спраў, Маркіяновіч неаднаразова самастойна выязджала працаваць у начны забаўляльны клуб у Ліван. Ездзіла, праўда, па турыстычнай візе.

Цяпер беларускі бок спрабуе вярнуць жанчыну на радзіму. Калі гэта атрымаецца, тады ўжо будуць высвятляць акалічнасці яе вывазу ў Сірыю.



Пад дуламі аўтаматаў жанчыны прызналіся ў шпіёнстве.

Другая жанчына на відэа — грамадзянка Малдовы Карына Колца. У канцы ліпеня яна таксама выехала ў Ліван. Як расказаў яе брат, сястра тэлефанавала за тыдзень да з'яўлення відэа і паведаміла, што яе скралі. Нумар быў сірыйскім.

У Сірыі два гады доўжыцца грамадзянская вайна. У ёй алавітам на чале з уладным кланам Асадаў супрацьстаяць партызаны-суніты. Як адзін, так і другі бок дзейнічае крывавымі метадамі. На баку ўладаў выступае і ліванская групоўка «Хезбалах». Гэтае добра ўзброенае злучэнне нанесла шэраг паразаў паўстанцам у раёне горада Хомс і ліванскай мяжы. Таму менавіта супраць яго скіраваны гнеў партызанаў.

Партызаны, праціўнікі Асада, — жук і жаба. Сярод іх дзейнічаюць як атрады дэзерціраў з арміі, так і тэрарыстычныя ячэйкі, звязаныя з«Аль-Каідай», а таксама проста крымінальныя банды.

**Сяргей Гезгала, Сяргей Макарэвіч**

**Праца ў Ліване — танцы і кансумацыя**

На беларускіх сайтах прапануецца для дзяўчат праца ў Ліване ў начных клубах. Умова: узрост ад 18 да 33 гадоў. Працадаўцы запэўніваюць, што клубы легальныя, а аснова працы — танцы і кансумацыя — толькі па працоўных візах, кантракты на 2, 3 і 6 месяцаў, гарантуецца 100-працэнтная бяспека, страхоўка і пяцідзённы працоўны дзень. А заробак — ад 1000 даляраў. Праўда, інфармацыю просяць высылаць па электроннай пошце альбо тэлефанаваць наўпрост у Ліван.

Кансумацыя заключаецца ў тым, што дзяўчаты стымулююць наведнікаў бараў, клубаў купляць больш ежы, алкаголю, за што атрымліваюць свой працэнт. Інтым не прадугледжваецца, але не выключаецца (па жаданні саміх дзяўчат).

**Вышук**


22-гадовы **Максім** падазраецца ў махлярстве. Ён узяў у арэнду ў некалькіх сталічных фірмах апаратуру і не вярнуў яе. Раней хлопец судзімы за крадзяжы тэхнікі і мабільнікаў. Можа знаходзіцца ў Мінску альбо Маладзечне. Хто ведае месцазнаходжанне падазраванага, тэлефануйце на 102.


Аліфераў Дзмітрый выйшаў з кватэры па месцы пражывання ў Бабруйску больш за год там і па сённяшні дзень не знойдзены. На выгляд 55 гадоў, рост — 175 см, хударлявага целаскладу. Калі нехта ведае пра месца знаходжання Аліферава, тэлефануйце ў Бабруйскі УУС: 8 (0225) 43-42-02, 44-94-15 ці 102.


**Арахоўская Людміла Львоўна** на неўстаноўленай машыне чорнага колеру 6 жніўня некуды з'ехала, і больш яе не бачылі. Прыкметы: на выгляд 60 гадоў, рост 160 см, хударлявая, валасы светлыя фарбаваныя. Была апранута: бэзавая блуза з кароткім рукавом, чорная спадніца. Хто ведае месцазнаходжанне зніклай, телефануйце ва УУС Заводскага раёна Мінска на: (017) 340-02-02, (017) 340-53-50.

## Ахоўнік крамы да смерці збіў наркамана

Пасля месяца комы **мужчына памёр**.

27-гадовы Іван Губар трапіў у рэанімацыю 30 чэрвеня. «Хуткая» забрала яго з разбітай галавой з ганка ўніверсама «Валгаградскі». Пасля канфлікту з ахоўнікам крамы ён упаў у кому.

«Учора была ў Янкі. Сказала яму, што Сашка першае слова сказала «тата». Ён у адказ хітнуў галавой крышку, — напісала жонка Вольга ў сацыяльных сетках праз чатыры дні пасля здарэння. — У асноўным пра Сашку яму і расказвала. І ён тузаў у адказ рукой. І калі развіталася з ім, папрасіла, калі ён чуе мяне, паварушыць рукой. І Ванюша гэта зрабіў. Уяўляеце!»

Але цуду не адбылося: траўма была настолькі сур'ёзнай, што дактары ад пачатку не абнадзейвалі блізкіх. Так і не апрытомнеўшы, мінчук 8 жніўня памёр на бальнічным ложку. Жонка засталася адна з сямімесячнай дачкой.

Што і як адбылося ў той вечар у сталічным універсаме, так і няясна. Родныя сцвярджаюць, што Івана збіў ахоўнік. Хлопец на добрым падпітку зайшоў ва ўніверсам. Ахоўнік яго вывеў і, як выглядае, ударыў. На таго завялі крымінальную справу за нанясенне цяжкага цялеснага пашкоджання па неасцярожнасці. Пасля смерці мінчука Следчы камітэт канфіскаваў з бальніцы ўсе дакументы для судова-медыцынскай экспертызы. Менавіта заключэнне экспертаў вызначыць ступень віны ахоўніка.

Па інфармацыі следчых, у пацярпелага ў крыві выяўлена 2,19 праміле алкаголю, а таксама сляды некалькіх наркатычных рэчываў.

**Кастусь Матушыч**


Іван (злева) памёр пасля месяца комы.

## Міліцыянер прымушаў прастытутак да «суботнікаў»

Дзясятак дзяўчат **адпрацоўвалі «дах»**.

Лейтэнанта мінскай міліцыі будуць судзіць за моцную любоў да прастытутак. Яму выстаўлена абвінавачванне ў злоўжыванні ўладай.

Лейтэнант працаваў у органах ад 2007-га. Цікавасць ва ўласнай бяспекі МУС 25-гадовы міліцыянер выклікаў тым, што ён прымусіў дзвюх дзяўчат, якія прыехалі ў Мінск з Гродзенскай вобласці, каб падзарабіць прастытуткамі, аказваць яму інтымныя паслугі бясплатна. Гаворка ідзе пра так званыя «суботнікі», падчас якіх дзяўчаты бясплатна абслугоўваюць свой «дах». Для ціску на дзяўчат лейтэнант выкарыстаў легенду, што ён з'яўляецца апэратыўнікам упраўлення па маральнасці і procціздзеяння гандлю людзьмі. Маўляў, ідзеце на кантакт, м я вас чапаць не буду.

Падчас праверкі высветлілася, што такіх дзяўчат было больш за дзясятак, кожная з іх яго «абслугоўвала». З органаў лейтэнанта адразу ж звольнілі, але пакінулі на свабодзе. Хаця суд вызначыць, ці надоўга.

**«Ежедневнік»**

### Сцісла

**Напіўся з гора**

Здарэнне адбылося ў Вілейскім раёне ўначы на 13 жніўня. Як расказалі сябры 17-гадовага юнака, у той вечар ён пасварыўся з дзяўчынай. Гора вырашыў «заліць» алкаголем. А затым пайшоў на чыгунку... Яму адрэзала ногі. У бальніцу яго паспелі давезці, але было позна. Ён памёр.

**Арганізавалі інтэрнэт-казіно**

Сталічная букмекерская фірма на сваім сайце арганізавала гульню ў покер. Пад выглядам ставак на спартыўныя матчы людзі клалі грошы на віртуальныя рахункі, каб пасля гуляць у карты. Калі чалавек выйграваў, грошы забіраў у касе фірмы. Падчас незаконнай прадпрымальніцкай дзейнасці дзяржаве нанесена шкода на больш чым 100 мільёнаў рублёў.

**Збіў настаўніка і сеў на паўгода**

22-гадовы хлопец з Баранавіч зайшоў у школу папіць вады. А калі ўбачыў свайго былога настаўніка, кінуўся да таго з кулакамі. Інцыдэнт здарыўся яшчэ ў маі. Увечары таго ж дня яго затрымалі. На судзе, праўда, хлопец не змог патлумачыць прычыну сваёй агрэсіі, але выбачыўся і раскаяўся. Зараз шэсць месяцаў правядзе ў турме. Збітаму настаўніку бацькі дэбашыра выплацілі 15 мільёнаў рублёў кампенсацыі.

**Дзіця выпала з пятага паверха**

Пакуль мама адышлася, каб суцішыць трохмесячнага малога, старэйшы выпаў з акна пятага паверха інтэрната ў Гомелі. Двухгадовае дзіця шпіталізавана. Следчы камітэт праводзіць праверку.

**Раззлаваўся і зняў штаны**

20-гадовы кіроўца нястрымана адрэагаваў на незадаволенасць іншых аўтаўладальнікаў. Калі хлопец ледзь не справакаваў аварыю ў Гомелі, яму пачалі сігналіць. У адказ ён выскачыў з машыны, замахнуўся і зняў штаны. На хулігана паскардзіліся абражаныя кіроўцы. Хлопца прысудзілі да штрафу ў пяць мільёнаў.

**КМ**

# «Смяяліся, што займаемся толькі стратнымі канцэртамі»

Прадзюсар **Уладзімір Шаблінскі** пагутарыў з «НН» напярэдадні беларускага Вудстока — фестывалю «Вольнае паветра», які 24 жніўня ладзіць яго «Лінія гуку» на хутары Шаблі ў Валожынскім раёне.

**Лепей быць добрым адміністратарам, чым храновым музыкам**



**Уладзімір Шаблінскі**

нарадзіўся ў Мінску ў 1970. Скончыў Энергетычны тэхнікум, працаваў вядучым на радыё «Бі-Эй». У 1997 заснаваў канцэртнае агенцтва «Лінія гуку». Працаваў дырэктарам гурту N.R.M., у 2004 набыў хутар Шаблі, які стаў адной з самых яскравых канцэртных пляцовак краіны.

**«Наша Ніва»: Вы былі панкам за савецкім часам. Што гэта значыць?**

**Уладзімір Шаблінскі:** У школе я ўваходзіў у розныя моладзевыя тусоўкі, у газетах мы называліся «моладзевыя банды», з якіх і прыходзіла заходняя музыка. Даводзілася выбіраць пад сваю душу, The Beatles мне не падабаліся, цяжкі рок таксама, трэба было нешта сярэдняе — я абраў панк-рок.

У нас з сябрамі быў гурт «Шабаш». Мы нават ездзілі ў супольны тур з першым савецкім панк-гуртам «Автоматіческіе удовлетворітелі» — я часам лепей ведаў тэксты Андрэя Панова, чым ён сам. Яны запрашалі мяне на сцэну, і я яго падмяняў. З часам я зразумеў, што лепей быць добрым адміністратарам, чым храновым музыкам.

**НН: І з чаго пачалася адміністратарская дзейнасць?**

**УШ:** У 1993-м я прыйшоў на эфір адзінай FM-станцыі «Радыё Бі-Эй» у якасці госця і застаўся там працаваць у якасці вядучага праграмы. Тады і прыйшло разуменне, што да музыкі можна мець дачыненне, не трымаючы гітару ў руках. Тры гады я працаваў на радыё, пазнаёміўся з большасцю расійскіх музыкаў, пачалі вазіць сяброўскія калектывы з Расіі. Калі ты сам музыка, калі бачыш, як адбываецца тур знутры, прасцей працаваць прамоўтарам. Ты ведаеш: не сустрэлі на вакзале — дрэнна, не пасялілі ў нармальным месцы — дрэнна. У нас з’явілася магчымасць улічваць памылкі іншых.

**НН: Але ў 90-я такая праца мела сваю спецыфіку…**

**УГ:** У 90-я не было гатэляў, валасатых альбо «падазроных асобаў», не сялілі ў тыя гатэлі, што былі. Не было магчымасці арганізоўваць транспарт альбо таксі. Вось цяпер знайсці апаратуру проста, а тады фірмаў у горадзе было дзве, даводзілася абіраць паміж дрэннай і зусім дрэннай. Мы па начах расклейвалі афішы па цэнтры горада, хаваючыся ад міліцыі, множылі іх на выпадковых ксераксах. Цяпер усё па-іншаму.

**НН: Ці проста было «адбіць» канцэрт у тыя часы?**

**УШ:** Мы смяяліся, што слоган у «Лініі гуку» мог быць: «Мы займаемся толькі стратнымі канцэртамі». Першыя касавыя зборы мы сталі атрымліваць на канцэртах гурту «Король і Шут». Заўжды трэба імкнуцца зрабіць немагчымае — калі робіш канцэрт з добрым гукам, святлом, рэкламай, давядзецца рыхтавацца да стратаў. А калі хочаш «зрубіць бабла», то можна зрабіць чорна-белыя афішы і не прывезці гурт. Калі бярэш на сябе страты, то ў выніку ты працуеш на карысць культуры краіны. Мы знаходзілі баланс у тым, што вазілі эстраду, каб мець прыбытак і працаваць з некамерцыйнымі выканаўцамі. Цяпер працягваем гэта рабіць.

**НН: А як Вы сталі дырэктарам N.R.M.?**

**УШ:** Яны выступалі ў Гродне, мы былі нанятыя як пракатная кантора. У цягніку на Мінск я атрымаў прапанову стаць дырэктарам гурту. Ім спадабалася, што «Лінія гуку» вельмі карэктна ставілася да музыкаў. Гэта быў выдатны час. Да сітуацыі, якая склалася з гуртам цяпер, я не маю дачынення — мы працягваем сябраваць з Лявонам і Ганнай Вольскімі.

**НН: Як Вашы Шаблі сталі канцэртнай пляцоўкай?**

**УШ:** У 2014 будзе 10 гадоў, як мы купілі хутар. Назвы Шаблі ў яго не было, не было нават адраса. Там былі высокія травы і хмызнякі — трэба было яго прыводзіць у парадак. Дапамагаць нам узяліся сябры, усе музыкі, за сябрамі паехалі іх сябры. Так мы сталі адкрытай пляцоўкай — ад вогнішча і гітары да фестываляў.

**НН: З мясцовымі жыхарамі праблемы бываюць?**

**УШ:** Блізкія добра ставяцца, яны бачаць неагрэсіўнасць мінчукоў, якія прыехалі адпачываць. Для некаторых я там — «мясцовы Воўка». Разумеюць, што мінчукі едуць сюды не біцца, а на сямейны адпачынак. Аднак ад «далёкіх» мясцовых рознае можна пачуць. Спачатку пра нас казалі, што мы сектанты (бо лысыя), пасля — што бандыты (бо лысыя і на джыпах), па апошніх трэндах мы чамусьці БНФ.

**НН: Што будзе сёлета на «Вольным паветры»?**

**УШ:** Мы імкнёмся прывозіць розную музыку з розных краін — з Расіі будуць Theodor Bastard, бураты Namgar — у іх музыцы захаваліся нацыянальныя традыцыі буратаў. Два расейскія гурты, і такія розныя — адныя «стэп і кавыль», а другія — «сучасная музыка вялікага мегаполіса». Хэдлайнеры — нямецкі Feindrehstar, назавём іх «этна-джаз», гэта не простая для ўспрымання музыка. Трэба падзякаваць Інстытуту Гётэ, які дапамог іх прывезці. І, зразумела, будзе некалькі беларускіх калектываў.

**НН: У які бок далей будуць развівацца Шаблі?**

**УШ:** Мы абмежаваныя ў сваіх магчымасцях, грошы ад канцэртаў цалкам укладаюцца ў хутар. Праз

## Спачатку пра нас казалі, што мы сектанты, бо лысыя

сёлетні пажар мы адкінутыя далёка назад, дом трэба было скончыць восенню, а тут давядзецца пачынаць спачатку. Дзевяць гадоў мы яго стваралі, цяпер наперадзе яшчэ дзевяць гадоў. І абавязкова варта ствараць прастору, якая б спадабалася дзецям. Калі будзе цікава дзецям, будзе шмат сем’яў. Хочацца купляць квадрацыклы, зорбы, катапульту і іншыя забаўкі.

**НН: Ці не надакучыла Вам займацца музыкай за гэты час?**

**УШ:** Любая праца мусіць прыносіць задавальненне. Калі яна ператвараецца ў канвеер, варта нешта змяніць. Так было на радыё, мне не хацелася ў 50 гадоў чытаць прагноз надвор’я. Гадоў пяць таму я зразумеў, што канцэрты штодня — гэта нецікава, бо нічога новага не адбываецца. Тым больш, культурная прастора краіны звужаецца. Я не займаюся шоу-бізнэсам, хутчэй агратурызмам, цяпер я шчаслівы чалавек.

**НН: А з-за чаго, на Вашу думку, звужаецца прастора?**

**УШ:** Дзяржава і яе ціск. Робіцца гэта для таго, каб людзі, якія думаюць і маюць ініцыятыву, адмовіліся ад канкурэнцыі з дзяржавай. Сітуацыя бліжэйшым часам не зменіцца. Але я з задавальненнем гляджу ў будучыню, бо, дзякуючы інтэрнэту і магчымасці для беларусаў падарожнічаць, агульны IQ нацыі вырастае. Я бачу, як Беларусь развіваецца, магчыма, не дзякуючы сітуацыі, а насуперак. Менталітэт беларусаў змяняецца, і гэта выдатна.

**Гутарыў Юрась Ускоў**

**Фестываль «Вольнае паветра»**

праходзіць штогод ад 2006. Ад 2008 — на хутары Шаблі. Мэта арганізатараў — стварыць міжнародны фэст разнастайнай некамерцыйнай музыкі. У розны час на «Вольным паветры» выступілі музыкі з Сербіі, Германіі, Польшчы, Літвы, Расіі і Украіны.

## Сцісла

### Выйшаў чацвёрты том Збору твораў Караткевіча

У чарговым томе поўнага Збору твораў культавага творцы, які выдае «Літаратура і мастацтва», аж 862 старонкі. У ім — «Дзікае паляванне караля Стаха», «Маці Ветру», іншыя празаічныя творы. Тэксты друкуюцца цалкам, вернута выразанае савецкай цэнзурай. Чацвёрты том выйшаў раней за трэці, бо яго ўкладальнік Анатоль Верабей напярэдадні знайшоў раней невядомыя рэдакцыі апавяданняў і казак Караткевіча, якія мусілі ўвайсці ў трэці том, давялося яго дапаўняць. Трэці і пяты тамы выйдуць яшчэ сёлета.

### Памёр знакаміты драматург Славамір Мрожак, які стварыў тэатр парадоксу

Ва ўзросце 83 гадоў памёр вядомы польскі пісьменнік Славамір Мрожак.Ён быў аўтарам сатырычных апавяданняў і драматычных твораў. З 2008 года ён жыў у французскай Ніцы. Беларусь, як і іншыя краіны Усходняй Еўропы, трапіла пад моцны уплыў Мрожака, які стаў першым драматургам-абсурдыстам, чые п’есы паставілі ў СССР.

### «Кароль і шут» без Гаршанёва змяніў назву

Расійскі панк-гурт «Кароль і шут» вырашыў змяніць назву на «Северный флот» пасля смерці свайго саліста Міхаіла Гаршанёва. Яны пераназваліся ў гонар адной з песень Гаршанёва, якая стала сімвалам іх дружнага калектыву. Міхаіл Гаршанёў, вядомы пад мянушкай Гаршчок, памёр ва ўзросце 39 гадоў 19 ліпеня.

### Выйшаў «нямецкі» нумар часопіса «ПрайдзіСвет»

Сярод аўтараў новага нумара — і класікі Вільгельм Гаўф, Эрых Марыя Рэмарк, Генрых Гайнэ, Герман Гесэ, Райнэр Марыя Рыльке, і не перакладаныя раней на беларускую мову Тэадор Крамер, Курт Тухольскі, Людвіг Бехштайн, і сучасны паэт Ян Вагнэр. Часопіс выходзіць у інтэрнэце, а не на паперы. Сайт — prajdzisvet.org.

**ЮУ**

# Чужыя і іх тухлая ідэалогія

У нашых Баранавічах цяпер **судзяць Віктара Сырыцу.**

На яго раённая міліцыя склала 3 пратаколы за арганізацыю і правядзенне «несанкцыянаванага мітынгу» ў Мілавідах (Баранавіцкі раён), прысвечанага 150-м угодкам Мілавідскай бітвы касінераў Кастуся Каліноўскага з царскім войскам у 1863 годзе. Ён жа ініцыяваў суд з газетай «Наш край» за падман чытачоў, якая на сваіх старонках 2 чэрвеня запрасіла грамадзян горада на афіцыйнае мерапрыемства аддзела культуры райвыканкама. Аднак калі людзі на ўласным транспарце прыехалі да Мілавідскіх помнікаў (35 км на поўдзень ад Баранавічаў), то там нікога не было. Такога цуду ў нас даўно не было.

Другі ініцыятар Мілавідскага фэсту Вячаслаў Болбат судзіцца з Баранавіцкім райвыканкамам, які двойчы забараніў грамадскасці горада ўшанаваць памяць патрыётаў, якія загінулі ў Мілавідскай бітве 150 гадоў таму. Баранавіцкая суполка ТБМ рыхтавала вялікую культурніцкую праграму да гэтай значнай падзеі нашай гісторыі. У райвыканкам загадзя была пададзена адпаведная заява на правядзенне фэсту «Памяці касінераў» 2 чэрвеня. Але раённыя ўлады традыцыйна ў пагрозлівай форме забаранілі гэтае гістарычнае свята, паментарску напісаўшы ў адказе «мы вам запрещаем», бо ў гэты час будзе адбывацца афіцыйнае мерапрыемства, таксама прысвечанае Мілавідскай бітве.

Тады мы вырашылі паехаць на абвешчанае свята, каб яго проста паглядзець і ўскласці кветкі да помнікаў. Дарэчы, што было і зроблена. Але вось тут усё і пачалося. Раённая міліцыя тройчы выклікала Віктара Сырыцу да сябе і абвінавацiла яго ў незаконным правядзенні масавага мерапрыемства. Пратаколы на яго перапісваліся тры разы, каб мець «законную» падставу пакараць грамадскага актывіста. 31 ліпеня суддзя Кацярына Груда па сведчанні толькі аднаго чалавека, маёра Віталя Куляшова, аштрафавала Віктара на суму 2 млн рублёў за правядзенне забароненага мерапрыемства (а сведчанні 9 удзельнікаў не былі прыняты да ўвагі). Якое ж яно забароненае, калі людзі прыехалі на свята, анансаванае дзяржаўнай газетай. Але, як высветлілася на судзе, райвыканкам, не папярэдзіўшы грамадзян, нечакана перанёс афіцыйнае свята на 2,5 гадзіны раней вызначанага часу. Думаю, што гэтага афіцыйнага мерапрыемства хутчэй за ўсё не было ці яно мела выгляд кабінетнага міжсабойчыка ў 10 гадзін раніцы, а не ў 12.30, як планавалася і абвяшчалася газетай.

Супрацоўнікі райвыканкама паведамілі ў судзе, што акрамя таго ў сельскім клубе яны прадэманстравалі фільм пра Каліноўскага (але які фільм, яны чамусьці не сказалі). На самай справе толькі планавалася паказаць фільм «Чырвонае лісце» пра рэвалюцыянера Сяргея Прытыцкага, які жыў пазней за Каліноўскага. Потым чыноўнікі запыталіся ў загадчыцы клуба: «Чужых не было ў клубе?» Яна адказала: «Не было».

Многа яшчэ ўсялякай мітусні і клопату з судамі і скаргамі адбываецца на гэты час у Баранавічах. Але мне хочацца запытаць сваё: «Хто гэта тут чужы?» Можа, той гарадскі паэт, які шчыра напісаў такія радкі:

Уздымаўся туман ад настылай зямлі,
Залацелі пад сонейкам росы…
І калі сюды карнікі ўсё ж падышлі —
Слова мовілі стрэльбы і косы.

А можа, чужы той бард, які спяваў:

Касінеры! Да брата становіцца брат,
Не да страху цяпер і самоты,
Ад казацкіх клінкоў, ад шрапнелі гармат
Уратоўвалі лес і балота.

А можа, чужы — гэта чалавек, які з усёй душой беларуса натхнёна распрацоўваў буклеты і каляровыя паштоўкі, прысвечаныя 150-м угодкам Мілавідскай бітвы. А можа, чужы тут Віктар Сырыца, які арганізаваў вандроўку людзей на афіцыйнае свята, каб ускласці кветкі на магіле тых, хто загінуў за свабоду. А можа, чужыя тут людзі, якія прыехалі ўшанаваць памяць продкаў і якіх мясцовыя чыноўнікі проста зняважылі. Так, у рэальным жыцці ўсе яны, аказваецца, чужыя на іх «празднике жизни».

Не, панове — гэта вы паводзіце сябе як чужынцы ў гэтым краі, топчаце сваёй тухлай ідэалогіяй памяць і душы светлых хлопцаў-касінераў і робіце іх прадметам гандлю, пераследуеце беларускіх патрыётаў. Вы іх вымушаеце, замест стваральнай працы на карысць грамадства, траціць час на суды з вамі. Але яны судзяцца не за сябе, а каб бараніць памяць касінераў 1863 года. Шкада, што да гэтага часу іх трэба

**Судзяцца не за сябе, а каб бараніць памяць касінераў 1863 года**

бараніць ад так званых «сваіх», бараніць праўду і свабоду, за якую змагаліся беларусы пад Мілавідамі 150 гадоў таму. Гэта вы хочаце перапісаць нашу гісторыю на свой хамскі манер. Толькі вы можаце ў дзень святкавання юбілею Ларысы Геніюш, якая была асуджана на 25 гадоў да сталінскай турмы, у сваёй тэлеперадачы паставіць музычную застаўку: «Как упоітельны в Россіі вечера». Але ж мы ведаем, што ў далёкай, халоднай і катаржнай Сібіры для выдатнай беларускай паэткі гэтыя вечары былі «омерзительны и уморітельны».

Усе яны бачаць нас зверху, зверху нас бачыць і Бог. Думаю, што ён разбярэцца, хто свой, а хто чужы.

**Галіна Ярашэвіч, Баранавічы**

# Беларускія глыбіня. **Вочы чорныя**

Піша **Павел Севярынец**.

*Глянь, пачуй мяне,*
*Госпадзе, Божа мой!*
*Прасвятлі мне вочы,*
*каб не заснуў я*
*сном смерці.*
*Псальма 12:4*



**Павел Севярынец**

палітык, пісьменнік. Сузаснавальнік Маладога Фронту, пасля Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі. Асуджаны на тры гады «хіміі» па справе так званых «масавых беспарадкаў» — так лукашэнкаўцы называюць пратэсты з патрабаваннем дэмакратыі і справядлівасці, што адбыліся ў дзень выбараў 19 снежня. Адбывае пакаранне ў Купліне Пружанскага раёна.

— Кіно не люблю, — кажа электрык Ігар, і слабы голас трымціць, згасае напрыканцы словаў, — кнігі люблю. У кіно як пакажуць, так і глядзі... Жары, што даюць... А кніга... Там сам уяўляеш, як хочаш.

І глядзіць скрозь цябе сваімі запаленымі ад бяссоння чорнымі вачыма з-пад пасівелых броваў, высокі, кашчаваты, сутулы, як быццам хоча сказаць яшчэ нешта, але потым ледзь бачна махае рукой — ай...

Электрык Ігар — ад Бога. Бывае, бярэ на складзе лямпачкі або разеткі, рукі трасуцца, пакуль запішаш — палова драбязы рассыпаецца па падлозе, а пачынае тэхнарыць, паяць ды падлучаць — цуд. Большасць інжынерных вынаходак у гаспадарцы — гіганцкія вентылятары, сарціроўкі з рэгулятарам хуткасці, прыстасовы для захоўвання ды апрацоўкі бульбы, тэмпературны рэжым у сховішчах да градуса, ужо не кажучы пра кабелі ды праводкі, — ягонае.

З суседам-токарам (а такарка праз сценку з электрацэхам) Ігар як кот з сабакам. Інтэлігент у тэхніцы, Ігар пагардліва фыркае на токара Валянцінавіча: «А, гэтаму б толькі парэзаць ды заварыць!» У 1990-х быў Ігар адным з тых партызанаў, хто разбіраў савецкі вайсковы гарадок: вёдрамі цягнуў у гаспадарку цвікі, гайкі, медзь, аддана перакоўваў мячы на аралы... Заядлы заўзятар: футбол, біятлон, тэніс ды ўсё, што ёсць. Заўжды катэгарычны: «Дваровая каманда», «Фэ-ка Пружаны». «Азаранка здулася». Дома Ігар усё марыць усталяваць сістэму люстэркаў, каб з адчыненай прыбіральні быў відаць тэлевізар: цяпер не прапусціш ані хвіліны.

Але гарэлка. Запоі па некалькі дзён. Выхад — або праз галяк, калі ўжо няма чым пахмяліцца, або ў шпіталь — платна 900 тысячаў праз кропельніцу.

— Пры Саюзе людзі лепшыя былі, — ціха, утаропіўшы вочы ў падлогу, кажа Ігар.

Лепш было, увогуле.

А чым яму, Ігару, быў кепскі Савецкі Саюз? Маладосць — зорная. Родам з 1960-х, быў Ігар першым чалавекам у Пружанах: меў сінтэзатар «Ямаха», усе вяселлі або канцэрты — Ігарок, давай!.. 35 рублёў савецкіх грошай, Ігар сыграе, спяе ў мікрафон, ды наліваюць. Купляў матацыклы — «Ява», «Чызэт» — картынгі... А потым надакучыла, у бэпэсээм здаў, грамату далі. Эх, страда-эстрада! Піў Ігарок і з Ціхановічам-Паплаўскай, і з Жорам Кандрацьевым... Быў час, быў век, была эпоха.

Ну, хіба калі працаваў выкладчыкам у Пружанах, на Вялікдзень ставілі на «дзяжурства» каля царквы — вылоўліваць студэнтаў, што ўпотай ходзяць да храма. І пасада была — дырэктар Дома культуры таго ж тэхнікума. Не які там *завклуба* — дырэктар. І Дом культуры — двух-па-вяр-хо-вы!

Душа па-ранейшаму лунае недзе там.

Гартаю газету. Рэтра: «Ансамбль «Чараўніцы» праз 20 гадоў». Ігар падыходзіць — і замірае па-над фотаздымкам. «О-о, гулялі мы з імі... На гастролях у Пружанах».

Запальвае. Газету не выкідай. Дым. Цыгарэта дрыжыць. Савецкае настальжы, чорна-белы нуар... І вось ужо ціхенька, сабе пад нос: «І сніцца нам не рокат касмадрома-а-а...»

«Зямляне». «Самацветы». Пугачова. Антонаў. «Ласкавы май». Канечне, «Песняры»...

— Э, маэстра, давай, як там... Вочы чорныя, вочы страсныя!..

Што замаўлялі ў Пружанах часцей за ўсё? «Машыну часу» земляка Андрэя Макарэвіча.

«Пакуль не гасне свет,
Пакуль гарыць свяча...»

Эх, сыграў бы, крануў бы клавішу зараз, каб тысячу сэрцаў забіліся... Ды, калі рамантаваў сарціроўку, адзін дзеяч дзеля прыколу націснуў кнопку. І застаўся электрык наш са скалечаным указальным пальцам на правай руцэ.

Калі Ігар зранку прыходзіць на працу — удалечыні, ля бульбасховішча, з'яўляецца постаць чорнага ката. Ён няспешна, мякка ступае насустрач Ігару праз увесь агромністы асфальтавы пляц, і ў гэты момант за спатканнем чалавека і ката назірае ўся гаспадарка. Чорная істота перабірае лапамі ўсё хутчэй, пераходзіць на бег і з размаху скача на грудзі электрыку. Воплескі, захопленыя воклічы — і Ігар, быццам мадонна, з камячком на руках знікае ў дзвярах электрацэха. Сёння ў нас на сняданак сасіскі і кефір — ад смятаны чорны Кеша ўжо верне нос.

— Не прыгожы ты мой, — шэпча Ігар, — але харошы...

Кеша валяе дурня на сетках з бульбай, пільнуе ды ловіць мышэй і ластавак (звычайна над імі круціцца і шчабеча цэлая сціжма), стала харчуецца ў таткі, а па дабаўку ходзіць на поле, дзе працуюць жанчыны, строга ў абедзенны час... Ну, а за Ігарам пачынаюць заўважаць ціхія каціныя звычкі.

Ходзіць ценем. Робіць моўчкі, пашчоўквае выключальнікамі, толькі распісваецца за разеткі ды метры дроту, адстаўляючы пакалечаны ўказальны палец — роспісам трапяткім, быццам злоўленая Кешам ластаўка.

Стане, як нешта забыўся. Глядзіць удалячынь. І позірк... Нібыта ён вышэй за *гэта ўсё*. Не, не дзеля росту. Саліст за клавішамі на сцэне, перад ім мікрафон, а ўнізе — увесь горад.

— Быў бы я прэзідэнтам.... Расстраляў бы іх к чортавай мацеры, — абвяшчае Ігар, і з заміраннем сэрца чакаеш, каго на гэты раз «іх».

Чыноўнікаў. Апазіцыю. Спевакоў-папсавікоў. Дэпутатаў. Журналістаў.

— Не, сур'ёзна. Да сценкі, і ўсё!

Ігар, Ігар...

Галоўнае, гэты незабыўны позірк удалячынь.

І — надтрэснутым голасам:

— У Бога... веру... а можа, і не... А ў лёс веру. Лёс ёсць, усё перадвызначана.

— А кім перадвызначана? Богам, выходзіць?

— Ну, значыць, і Бог ёсць.

І калі ў сваім зашмальцаваным альпійскім каптуры Ігар мілуецца з Кешам ды заглядае ў ягоныя прымружаныя кашэчыя зрэнкі, або калі пакутліва моршчыцца і скалечанымі дрыжачымі пальцамі выкручвае ды ізалюе праводку, каб даць святло — раптам, нібы з ударам току, бачым, як аднекуль з глыбіні праз ягоныя чорныя-чорныя вочы, праз чалавечае знемажэнне, вяселлі, застоллі, застоі, запоі і ўсё пражытае жыццё глядзіць на цябе Ісус.

*Куплін*

**Электрык Ігар — ад Бога. Як пачынае тэхнарыць, паяць ды падлучаць — цуд**



# Чарвяк

**Зміцер Дашкевіч.** Аповесць.

**Працяг. Пачатак у «НН» ад 17, 24, 31 ліпеня, 7, 14 жніўня.**

Падняўся я, як заўсёды, па пад'ёме, а 5-й; а палове на 6-ю, як заўсёды, наеўся палажняковай кашы з Дзёневымі каўбасамі і пірагамі; як заўсёды, ізноў лёг спаць; а 10-й, як заўсёды, мяне пабудзілі галасы ПКТэшнікаў, што разоў «наццаць» прывіталіся з Дзёнем, на што ён столькі ж разоў адказаў. Віталь, Алег і яшчэ нехта гукнулі вітанні мне, і я скрозь сон пракрычаў тры разы: «Здаровенька!»

Перад бяссонаю этапнаю ноччу трэба было б добра выспацца, але тут прыйшоў атраднік і выдаў вопісы, каб да абеду я перапісаў усе свае пажыткі. Раней я павярхоўна выконваў гэтае заданне, аднак бывала пару разоў так, што па прыбыцці на новае месца дыслакацыі рэчы, не запісаныя ў вопісе, вымаліся на склад калоніі, а адтуль забраць іх ужо нельга — толькі пры пераездзе ці вызваленні. Па глыбоцкай завядзёнцы, закіпяціў я салодкі чай і распачаў бухгалтэрыю.

— Дзімон, ты як там?

— Усё пад кантролем, Дзёня. Вопісы дарабляю.

— Мо заварым што на гулку?

— Дык давай.

— Я завару каву, а ты стаканец вазьмі з сабою.

— Дамовіліся.

— І фотаальбом захаплю, паглядзіш на маіх.

— О, я таксама вазьму. Толькі трэба будзе неяк дамовіцца з Жорам, каб у суседнія дворыкі завёў.

...Жора быў кантралёр — ды што кантралёр, чалавек вельмі моташны. Спыняў брыгаду перад выхадам на працу і палову выправаджваў у атрад, каб галіліся да бляску, і яшчэ складаў на іх рапарт за неналежны выгляд. Пяцідзесяцігадовыя зэкі апраўдваліся: «Куды ж я выгалюся, мне шосты дзясятак, а станку другі год». І нават калі начальства разумела абсурднасць рапартаў тых, прызнаць, што зэк мае рацыю — нельга: гэта ж пахісне аўтарытэт улады! Гэта ж кожны возмецца правы свае даказваць! І забіралі ў «парушальнікаў» права на перадачы, сустрэчы з роднымі, атаваркі...

Апошнімі ж днямі пайшла пагалоска, што Жорж збіраецца па «вышку» (не ў гуманны суд РБ, а ў Акадэмію МУС). І ўжо самі кантралёры скардзіліся парушальнікам: «Цяпер Жора вам душу вымотвае, а праз пару год будзе нам. Трэба звальняцца!»

Неяк на прагулцы Жора аднаму са «злоснікаў» даказваў: «Я б тут і задарма працаваў — трэба ж камусьці вас, бандытаў, ахоўваць!» Я не стрываў і выказаў бескарыснаму вертухаю ўсё, што я аб ім думаю. Зрэшты, не ўсё — адсоткаў дзесяць. Жора надзьмуўся, пачырванеў і заявіў, што я сяду ў ізалятар. Я парыраваў пачутым калісь ад бывалага: «Ды мне начхаць, Жора, я ў гэтых ізалятарах вырас!»

Вярнуўшыся з прагулкі, я тыя свае 10% рэтрансляваў яшчэ раз, і мне сталася сорамна. Каб хто староннi паслухаў, дык сказаў бы: «Няўжо гэты так можа?» Я вырашыў папрасіць у Жорыка прабачэння. Але як прасіць — падумае, што баюся ізалятара.

**Зміцер Дашкевіч**

Кіраўнік Маладога фронту. Быў затрыманы 18 снежня 2010, за дзень да прэзідэнцкіх выбараў, нібыта за бойку, і асуджаны на 2 гады пазбаўлення волі за хуліганства. У 2012 быў асуджаны да яшчэ аднаго года зняволення, нібыта за непадпарадкаванне супрацоўнікам міліцыі. Выйсці на волю Зміцер Дашкевіч мае 28 жніўня 2013.

**Дашкевічу можна напісаць:**

230023, Гродна, вул. Кірава, 1, Турма 1.

Дашкевічу Дзмітрыю Вячаслававічу.

Можна таксама даць тэлеграму, прадыктаваўшы адрас на гарадскі нумар 166.



**Зміцер Дашкевіч. Плошча-2006.**

Я пачаў рыхтавацца да дзесяцісуткавага сну на падлозе: адклаў ручнік, мыла, зубную пасту са шчоткаю, рулон туалетнай паперы большы, што будзе служыць падушкаю, апрануў цяплейшыя шкарпэткі, зняў лішнюю адзежу — у ізалятары дазволена мець на сабе толькі споднее: лёгенькую, аж празрыстую баваўняную кашулю і гэткія ж штонікі. Але Жорык рапарта не напісаў...

— Жора, дык дворыкі ж вольныя, давай мы побач пагуляем, — папрасіў спакойна, але трошку абурана Дзяніс.

— Нельга, — няўмольна адказаў той.

— Ды не прасі ты, Дзёня, гэта ж — Жора, — кінуў я Жорава імя як абразу.

— Не, я Жору ведаю іншым, ён нармальны, добры чэл, — не пагадзіўся Дзяніс, прамаўляючы гэтую характарыстыку нам абодвум і павярнуўся да кантралёра. — Жора, я ж памятаю цябе харошым хлопцам, як ты яшчэ працаваць прыйшоў: на пякарню да нас завітваў, па-людску мы заўсёды з табою, і ты з намі. Калі цябе абазлілі некаторыя, дык ты ж на ўсіх не адыгрывайся, — Дзяніс спыніўся і, счакаўшы, дадаў з усмешкаю: — Тым больш на нас з Дзімонам, мы ж чарвякі, ды і толькі.

Жорык нешта прабурчаў у адказ. Было шкада, што апошняя мая прагулка ў «Глыбокім» выходзіла так няўдала: вось і фоткі паглядзелі, вось і кавы папілі, вось і паразмаўлялі па-людску на развітанне.

І тут Жора, ён самы, адчыняе суседнюю з Дзянісам клетку, потым маю і ківае мне:

— Пераходзь.

Выходзіць, каб змякчыць сэрца любога ў свеце «Жоры», насуперак эмоцыям, трэба вось так, па-Божаму: «Жора, я ж памятаю цябе харошым хлопцам! Давай па-людску, Жора, — мы ж проста чарвякі ў гэтым свеце!».

Я дастаў з кішэні фотаальбом і перадаў яго праз краты.

— Твая? — тыкнуў ён пальцам у фота Насценькі.

— Мая! — з гонарам адказаў я.

Зэкі заўсёды так адказваюць на гэтае пытанне — такая танальнасць азначае, што хоць ты і ізгой грамадства, але яшчэ камусьці патрэбны ў гэтым свеце.

— Прыго-ожанькая! — працягнуў Дзёня — І колькі ёй?

— Дваццаць два толькі споўнілася.

— А табе?

— Во, трыццаць адзін ляснуў па рэбрах.

— Як яе?

— Настасся.

— Прыгожа, — гэткім жа ўзнёслым голасам, як і ў мяне, адказаў ён і запытаў: — Я так і не зразумеў, вы жанатыя?

Я набраў поўныя грудзі паветра і пачаў апавядаць гісторыю, па матывах якой напішу лірычны кінасцэнар і вазьму «Оскара».

— Канчаткова я ўсвядоміў, што не магу жыць без яе, калі быў ужо ў турме. За гэта я ёй найперш і ўдзячны. Турме. Але, калі мы вырашылі ў «Горках» распісацца, высветлілася, што няма ў мяне пашпарта. Туды-сюды — знаходзім канцы ў КДБ: канфіскавала гэб'ё ў аднаго нашага сябра, па справе аб мітынгах. Як пашпарт у таго апынуўся? Давай мы пісаць чэкістам, але тыя ўрубаюць «дурня»: ці не адказваюць на запыты, ці адказваюць ахінеяю: «Не можам высветліць месцазнаходжанне».

— Як жа так? —абурыўся сябар.

— Дурню плюй у вочы, а ён кажа: дождж ідзе. Так і гэтыя: я ім — дакументы аб тым, дзе пашпарт і па якой справе імі ж канфіскаваны, а яны мне: дождж ідзе. Плюнуў я і вырашыў рабіць у «Глыбокім» новы. Але і ў гэтых дождж: не можам рабіць новы, пакуль маеш стары — замкнёнае кола. Давай я скандаліць. Марозілі яны, тармазілі і ўрэшце разам з позваю на новы суд выдалі мне новы пашпарт. І цяпер падалі мы дакументы ў ЗАГС.

— А якая ім розніца? — Дзяніс нахмурыўся: ён не разумеў падыходы, па якіх жэняць у нашай краіне маладафронтаўцаў.

— Дзёня, дзе мы жывём з табою? БССР! Усе і ўсяго баяцца! Яны думаюць, калі распішуць нас, дык гэтая ячэйка рэвалюцыі пахісне асновы рэжыму.

— Дык ЗАГС прызначыў роспіс? — расхваляваўся сябар.

— Прызначыў, — кіўнуў я і адвёў позірк.— На 6-га.

— Ну дык распішацеся!

— Дзёня, 6-е — заўтра, а сёння мяне вывозяць.

— Ды ты што?!

— У іх жа павязана ўсё. Дый у ЗАГСе сядзяць трасуцца, і таксама гатовыя да ўсяго. На новым месцы ўжо ажэнімся, мо ў «Мазырах» якіх, — нявесела скончыў я і паспрабаваў усміхнуцца. — Ды не будзем аб сумным. Давай твае фоткі глянем.

Дзяніс перадаў мне праз краты альбом.

— Матуля твая?

— Так, — вочы Дзяніса напоўніліся замілаваннем і сумам. — Гэта мы каля нашай хаткі, пад самымі Паставамі. Цікавая гісторыя з домам звязана. Я яшчэ малы быў, мы з маці ехалі на машыне з Віцебска, ад цёткі. І тут, каля дарогі, на ўскрайку вёскі стаіць пустуючы дом, а побач — самотны сад. Я ўпрасіў мамку спыніцца і натрэсці яблыкаў, бо свайго саду ў нас не было. Набраў поўную запазуху белага наліву, а яны такія сакавітыя, што ажно мёд цячэ па барадзе... і кажу я матулі, як было б добра такі домік мець! І, уяві сабе, яна яго набыла праз год! Вось тыя яблычкі, якія ты ўпадабаў, якраз з гэтага саду.

Я ўсцешана паківаў галавою, згадваючы, што адзін мядова-сакавіты яблык пакінуў на начны перакус у «сталыпіне».

Дзёня ж страс з сябе рэшткі суму і радасна запэўніў:

— Як сустрэнемся на волі, я цябе абавязкова запрашаю, разам з Настассяй! Заедзем, цяпельца раскладзём...

— Гусака засмажым! — усплыла мроя і перада мною.

— Хлеба я напяку, — пекар аж прыўзняўся, — чайку заварым... Ды і хопіць, што яшчэ нам, зэкам, трэба?! — Дзяніс мне моргнуў: — Узгадаем адзіночкі...

Мы стаялі моўчкі, узіраючыся ў блакіт небасхілу, на якім праплываючыя аблокі малявалі гусю ў яблыках, напечаны Дзёнем хлеб, чорную гарбатку, што паруе на драўляным стале, над якім раскінулі свае шатры старэнькія, але яшчэ моцныя яблыні...

— Хто гэта?—паказаў я на шатэнку гадоў 17-ці.

— Была сяброўка адна...— выдыхнуў Дзёня. — Пазнаёміліся за месяц да арышту. Я два гады з іншай сустракаўся, распісвацца збіраліся. Але нешта рассварыліся, і пайшоў я налева, пазнаёміўся з гэтай шатэнкай, Вікай. Ваявала яна за мяне пасля арышту дзень і ноч... Падавалася б: ну хто я ёй такі? А мяне толькі закрылі, на наступны ж дзень адчыняюцца ў хаце дзверы: «Выходзь, прыйшлі да цябе!» Я думаў, слядак мо які. Заводзяць у пакой, а там — яна! Кідаецца на шыю мне, плача: «Дзянісанька, вырвемся!» Я шакаваны быў... Мамка яшчэ не паспела зразумець, дзе я, а гэтая імгненна! Год і перадачы цягала, і мамку маю падтрымлівала, і па сведках бегала, і па следаках — усё даказвала: «Ён невінаваты!» Падняла на ногі нават сваю маці. А маці, ведаеш хто?

— Хто?

— Пракурорка!—крыкнуў Дзяніс і патрос рукою ў паветры.—І пракурорка, якая мяне на малалетку закрывала!

— Во ты выдаеш... — уразіўся я такім паваротам. — А тая што, з якой распісвацца меліся, кіданула?

— Яна, — сябар мой уздыхнуў. — Яна была цяжарная. Я потым даведаўся. Відаць, не магла дараваць мне здраду, ды ўжо сувязі са мною не шукала. Адмовілася рабіць аборт, дык бацькі выгналі з дому!

— І што?

— Нарадзіла. Потым выйшла замуж, за вайскоўца, харошага хлопца. Нарадзілася яшчэ адно дзіця. Урэшце, і ейныя бацькі шчаслівыя, і ягоныя.

— Рэдкі выпадак...

— Дзякаваць Богу, Ён уладкаваў.

— Ну, а Віка? — мяне цікавіў працяг турэмнага рамана.

— Зляпіў я з ёю расход, — выдаў Дзяніс трагічную канцоўку даволі спакойным тонам.

— Навошта?!

— Ды ты што, Дзімон...— махнуў рукой Дзёня. — Маладая дзеўка, усё жыццё наперадзе, а тут я — і «дванаццатка»... Ды як падумаў я таксама: сядзі і заганяйся, дзе яна, з кім.. І адпісаў ёй з «кічы», што ўсё, сканчаем гэтую любоўна-турэмную рамантыку. Віка доўга не згаджалася; матуля яе вельмі палюбіла і наракала на мяне, што дурань я такі і гэткі... Але што вырашана, тое вырашана.

— Ну, ты чэл канкрэтны... — уражана прамармытаў я.

— Нядаўна замуж выйшла, — працягваў прыхільнік радыкальных рашэнняў. — Але ў нас добрыя адносіны: піша мне, падтрымлівае, нават дапамагае матулі перадачы збіраць... Можаш сабе ўявіць, які чалавек?

Зэк і жанчына — самая неспасцігальная сфера турэмнага жыцця. Яму даюць «25-ку» за забойства палюбоўніцы, з якою ён паралельна жыў, а жонка даруе ўсё, збірае перадачы, ездзіць на спатканні... піша, плача, свята чакае.

А колькі едуць у зону браць шлюб з зэкам, якога ведаюць толькі па некалькіх лістах ці двух-трох забароненых размовах па мабільніку?.. Не спыняе нічога: ні кот у мяху, ні калючы дрот, ні 5, 10...25 год, якія гэтаму каце-абранніку пад аховаю аўчарак трэба пражыць... Розумам чалавечым такое спасцігнуць нельга, толькі душою.

— А цяпер пішашся з якою? — запытаў я пасля хвіліннага маўчання.

Дзяніс усміхнуўся:

— Ёсць адна дзяўчына, Марыя. У Ельску жыве, ведаеш?

— Ведаю, — кіўнуў я, узгадваючы адну з дзвюх сваіх малых радзімаў. — А як пазнаёміліся?

— Адрас даў яе стрыечны брат, з якім я тут разам год на пякарні працаваў.

— І што, пра адносіны не размаўлялі яшчэ?

— Размаўлялі, я ёй напісаў пра сваё бачанне сям'і, пра веру. Яна ва ўсім згодна, але са шлюбам мы вырашылі пачакаць.

— Чакаць? Табе колькі яшчэ сядзець, Дзёня?

— Восем. Да званка. Гады два мо і «адкушу».

— І ты кажаш: чакаць? Калі ёсць пэўнасць, трэба рабіць адразу. А калі няма... — я пранікліва паглядзеў на сябра. — Дык мо лепш ні ёй не тлуміць розум, ні сабе?..

*Працяг будзе.*

## ФУТБОЛ

### «Мінск» — «Стандард»



**22 жніўня ў Гродне на стадыёне ЦСК «Нёман»** адбудзецца першая гульня плэй-оф Лігі Еўропы. «Мінск» сустракаецца з бельгійскім «Стандардам». Пачатак а 19:30. Білет — 30 тысяч рублёў. Дзіцячы — 15.

### Кубак Беларусі

**24—25 жніўня** пройдуць гульні 1/8 фінала Кубка Беларусі па футболе. У суботу гуляюць:
«Дынама» (Мінск) — «Белшына» (Бабруйск);
«Гарадзея» — «Граніт» (Мікашэвічы);
«Слуцк» — «Дняпро» (Магілёў).
У нядзелю:
«Гомель» — «Славія» (Мазыр);
БАТЭ (Барысаў) — «Смаргонь»;
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Шахцёр» (Салігорск);
«Нёман» (Гродна) — «Дынама» (Брэст);
«Мінск» — «Полацк».

## ІМПРЭЗЫ

### Das Fest

**24 жніўня ў забаўляльным парку Dreamland** адбудзецца фэст нямецкай музыкі Das Fest. Бяруць удзел Killerpilze, Martin Kilger, David Huhn і іншыя.

### Адборачны канцэрт на фестываль Respublica

**Трэці год запар у Камянцы Падольскім (Украіна)** праходзіць фестываль музыкі і стрыт-арту Respublica. 30 жніўня а 18-й у забаўляльным парку «Дрымлэнд» адбудзецца адборачны канцэрт. Возьмуць удзел Re1ikt, J-J BINGZ, Step Hall, «МУТHAEBOKA», Exist M, Straightroads, Tim Erna. Уваход вольны.

### POVIDLO

**Фестываль этна-транс і эксперыментальнай музыкі POVIDLO адбудзецца ў ноч з 31 жніўня на 1 верасня** на адкрытай пляцоўцы спорт-цэнтра «Раўбічы». Шоупраграма будзе складацца з пластычных і эксперыментальных тэатраў, капаэйры, трайбла, фаер-шоу ў спалучэнні з этнатрансам, чыл-аўтам і драм-нбэйсам.

## КАНЦЭРТЫ

### Джо Кокер

**3 верасня а 20-й на Мінск-Арэне** — канцэрт Джо Кокера, падчас якога можна ўпершыню пачуць выкананне майстрам песень з новага альбома FireItUp, а таксама ўжо класічных You Can LeaveYour Hat On, Unchain My Heart i Up Where We Belong.




### Млын

**25 жніўня музейны комплекс «Дудуткі»** запрашае правесці апошнія выходныя лета на фэсце «Млын».
У праграме майстар-клас па беларускай народнай кухні з дэгустацыяй ад Алеся Белага. Вялікі сольны канцэрт «Крамбамбулі». На працягу дня гасцей чакаюць рамесныя майстэрні, традыцыйныя напоі ў бары «Шынок», выступленне фальклорнага калектыву на музейнай плошчы.
Пачатак а 10 гадзіне на музейнай плошчы.



Гальшанскі замак-2013

**24 жніўня ў мястэчку Гальшаны (Ашмянскі раён) пройдзе** традыцыйны фэст «Гальшанскі замак-2013». Галоўныя падзеі фестывалю — канцэрт старадаўняй і сучаснай музыкі (Беларусь, Літва), конныя рыцарскія турніры, катанне на конях, горад майстроў і майстар-класы, вогненнае прадстаўленне, забытыя і сучасныя народныя танцы і гульні. Традыцыйна ўдзел у мерапрыемстве прымуць музыкі «Літы талер», «Баламуты», Тэстамент+PAWA», танцавальныя гурты «Дэ-грыза», «Гістарыён», тэатры «Фламея», «Яварына». Пачатак а 12-й.




### F.R.A.M.

**22 жніўня ў клубе «Салтайм» (пр. Незалежнасці, 131/1)** выступіць гурт F.R.A.M. (Кіеў). Украінцаў у абноўленым сталічным клубе падтрымаюць мясцовыя гурты: HardWood, «Кашлаты Box», Omut.

### Нейра Дзюбель

**28 жніўня а 20-й у Jack club (Няміга, 12)** — канцэрт гурту «Нейра Дзюбель».

### IQ 48

**29 жніўня а 21-й у TNT Rock Club (Рэвалюцыйная, 9)** — канцэрт гурту «IQ 48».

### НагУаль

**30 жніўня а 19-й у «Графіці» (зав.Калініна, 16)** — канцэрт гурту«НагУаль».

### Оры Дакары

**27—28 жніўня а 19-й у Джазклубе Яўгенія Уладзімірава & Уладзіміра Карагіна (Палац Рэспублікі, Клуб Цэнтр)** — джазавы канцэрт Оры Дакары (Ізраіль).

## ВЫСТАВЫ

### Кардоннае сэрца

**На выставу лялек Кацярыны Пуставалавай «Кардоннае сэрца» запрашае** Музей гісторыі тэатральнай і музычнай культуры (зав.Музычны,5).

### Ігар Саўчанка: «Паверка асноў»

**Да 28 жніўня ў Галерэі «Ў» (пр. Незалежнасці, 37а)** праходзіць выстава «Паверка асноў» Ігара Саўчанкі. Аўтар прапануе наведвальнікам выставы выключна разумовую карціну свету, якая разгортваецца ў серыі тэкставых твораў.

### Марцін Лютэр: 530 гадоў з дня нараджэння



**У мабільнай галерэі Нацыянальнай бібліятэкі да 29 верасня** працуе выстава «Марцін Лютэр: 530 гадоў з дня нараджэння», падрыхтаваная сумесна з грамадскім аб'яднаннем нямецкай культуры «Масты».

### Наваградскі край вачыма Канута Русецкага

**Да 30 верасня ў партрэтнай зале Мірскага замка** адбываецца выстава мастацкіх твораў Канута Русецкага, падрыхтаваная сумесна з Бібліятэкай Літоўскай акадэміі навук імя Урублеўскіх. На выставе 27 эскізаў і малюнкаў славутага мастака XIX стагоддзя.

### Невядомая Балгарыя

**Да 6 верасня ў Newday (Няміга, 36)** працуе выстава Віктара Арлоўскага «Невядомая Балгарыя».

## КІНО

### Лірычны злодзей

Гадкі я 2
Мультфільм, камедыя
Рэжысёр: П'ер Софін, Крыс Рэно
ЗША, 98 хв.

Былы злодзей Гру ў другой частцы мультфільма цалкам перавыхоўваецца, дзякуючы тром дзяўчатам: Марго, Эдзіт і Агнэс, узятым з інтэрната. Цяпер ягонае хобі — вытворчасць джэмаў і жэле, а не навамодных прыстасаванняў для злачынных спраў. Але іншыя злодзеі не перавяліся, і ў свеце адбываецца гучнае злачынства: скрадзеная навукова-даследчая лабараторыя, што распрацоўвала небяспечнае рэчыва. Таму Гру зацікавілася Антызладзейская ліга: разам з агентам Люсі Уайлд ён вымушаны разбірацца з гэтай справай. Сіквел мультфільма «Гадкі я» атрымаўся нават лепшым, чым першая частка, што бывае нячаста. Да агульнага сюжэтнага экшана рэжысёры дадалі любоўную лінію Гру і Люсі, а таксама лірычную сямейную: дзяўчаткі мараць пра маму. Хапае і гумару: найбольш смешных момантаў ствараюць ярка-жоўтыя міньёны Гру, стварэнні, што размаўляюць на незразумелай, імітаванай мове. Добры фільм для сямейнага прагляду.

**Настасся Уласава**



# Жулікі-гіпнатызёры падманваюць пенсіянераў на посудзе

У Мінску зноў арудуе банда махляроў.

Яны «прадаюць» пенсіянерам нямецкі посуд — «па самайнізкай магчымай цане». Праўда, сума не бывае меншай за $300.

У Рэдакцыю «НН» звярнулася чытачка, маці якой так падманулі на мінулым тыдні.

«Да маці ў двары падышла жанчына і прапанавала купіць набор посуду з шаснаццаці прадметаў, — расказвае наша чытачка. — Па словах мамы, жанчына амаль не размаўляла па-руску. Сказала, што прыехала з Польшчы і прывезла на продаж каструлі і нажы. Цяпер у яе застаўся адзін камплект і яна не можа везці яго назад у Польшчу, бо на мяжы давядзецца аплаціць палову цаны».

У выніку «полька» прапанавала купіць у яе нажы і каструлі ўсяго за... 600 еўра.

«Мама ніколі не чапала валюты, якая ляжыць у нас дома, — расказвае чытачка. — Аднак тым разам яна аддала ўсе даляры і трыста еўра зверху. Цэлы дзень мама была ўпэўнена, што вельмі выгадна ўклала грошы і нават выторгавала зніжку».

«Полька» пакінула адрас сваёй крамы ў Варшаве, а таксама кантактны тэлефон. Ці варта казаць, што абанента з такім тэлефонным нумарам не існуе ў прыродзе. Узгадаць, як выглядала махлярка ці што ў яе была за машына, пенсіянерка не можа.

Гандляры посудам па «нізкіх цэнах» з'явіліся ў Мінску некалькі гадоў таму. Дзейнічаюць яны па адным сцэнары: на паркоўцы падыходзіць «паляк» альбо «вугорац», якому нібыта тэрмінова трэба прадаць посуд.

А вось далей сітуацыя развіваецца непрадказальна — здараліся выпадкі, калі людзі бралі крэдыт пад пакупку посуду і аддавалі болей за $1 тысячу. Посуду ж красная цана — мільён рублёў.

«Гэта нават не гіпноз, бо гіпноз — больш вузкі стан, гэта ўнушэнне, — кажа псіхатэрапеўт Сяргей Цвірко. — Прамы зварот да асобы чалавека. «Вы такі разумны, вы зразумееце, апошняя засталася». Гэтыя людзі вельмі пільна абіраюць ахвяру — калі чалавек стары, ці хворы, ці проста занураны ў свае думкі, ім лягчэй за ўсё маніпуляваць. Гэта ціск на тое, што называецца гонар, які так ці інакш прысутнічае ў любога чалавека».

**Калі вы трапілі ў такую сітуацыю, то варта адразу сказаць «не цяпер», «рэч добрая, але я падумаю», «мне трэба параіцца» або «я ў міліцыю пазваню»**

Па словах спадара Цвірко, з такім махлярствам сутыкаўся амаль кожны.

«Асабліва часта апошнім часам «прадаюць» фільтры для вады. Людзі купляюць, прычым людзі разумныя, — расказвае псіхатэрапеўт. — Пра гэта яшчэ О'Генры калісьці пісаў, з таго часу сістэма падману не змянілася. Адна мая знаёмая так нядаўна купіла тры скруткі даражэзных шпалераў, якія былі ёй непатрэбныя. Але калі махляр бачыць, што чалавек у сваіх думках, ён выкарыстоўвае тактыку бесперапыннай моўнай плыні. Калі вы трапілі ў такую сітуацыю, то варта адразу сказаць «не цяпер», «рэч добрая, але я падумаю», «мне трэба параіцца» або «я ў міліцыю пазваню». Гэтыя словы адразу прыпыняюць уздзеянне прамовы махляра, бо збіваюць яго, і выбудаваная сістэма выклікання адразу перастае працаваць».

**Юрась Ускоў**




## Прыватныя абвесткі

### ВІНШУЮ

**Віншую Дашу Зялінскую** з мінулым днём народзінаў і жадаю шчасця, здароўя, поспехаў у працы,кар'ернага росту і вялікага кахання. Дзіма.

### ШУКАЮ

**Запрашаю «графітыстаў»** для роспісу аграсядзібы. Юшку і шашлык гарантую! Тэл.: (017)184-43-60, (029) 941-50-81, (029) 578-12-83.

### ПРАЦА

**Выкладчык матэматычнага факультэта БДУ** прапануе рэпетытарства, падрыхтоўку да ЦТ, кансультацыі па ўсіх раздзелах вышэйшай матэматыкі, падрыхтоўку да экзаменаў і залікаў, дапамогу ў выкананні к.р. Заняткі ў цэнтры Мінска ці ў раёне ст. метро «Спартыўная». Магчыма выкладанне на беларускай і расейскай мовах. Магчымы пераклад тэкстаў з матэматычнай тэрміналогіяй на беларускую мову. Дар'я Аляксандраўна. Тэл.: 8029-160-45-86, navdasha@tut.by.

**Беларускамоўная дзяўчына шукае** падпрацоўку або працу па сумяшчальніцтве. Маю вышэйшую філалагічную адукацыю. Працую ў школе і цэнтры турызму (стаж — 2 гады). Захапляюся краязнаўствам і падарожжамі. Найперш цікавяць варыянты ў Лідзе, Баранавічах, Дзятлаве, Гродне і Мінску, але разгледжу любыя прапановы. Вікторыя. prysak@tut.by.

Прыватныя абвесткі ў «НН» (не больш за 15 словаў) можна падаць бясплатна. Дасылайце поштай (а/с 537, 220050, Мінск) ці праз e-mail (nn@nn.by) або размяшчайце на форуме сайта www.nn.by. Дык скарыстайцеся!

# У сталічным клубе ўвялі магчымасць з мужчынскага туалета падглядаць за дзявочым

Уласнік: гэта жарт.
Феміністкі: гэта сэксізм.


Кадр з відэа Onliner.by, зроблены з боку мужчынскай прыбіральні.

У модным мінскім клубе Blondes & Brunettes наведнікі заўважылі цікавую незвычайнасць. Адна са сцен жаночай прыбіральні — насупраць ракавін, не насупраць кабінак, вядома — зробленая з люстэрка. Аказваецца, з мужчынскага боку гэтая ж сцяна — празрыстая. Дзяўчаты і не здагадваліся, што кожны хлопец можа назіраць, як яны наво-дзяць марафет.

Уладальнік клуба, вядомы рэстаратар Вадзім Пракоп'еў, нічога асаблівага ў такім фокусе не бачыць — маўляў, проста жарт, а тых, хто яго не разумее, проста бракуе пачуцця гумару. Але многія сітуацыю з люстэркам называюць ненармальнай.

«Сама гэтая фішка адлюстроўвае ўстаноўкі і спадзяванні рэстаратара представіць Беларусь «аазісам прыгажосці» і нагадвае беларускія конкурсы прыгажосці, — разважае Ірына Саламаціна, ініцыятар праекта «Гендарны маршрут: фестываль ідэяў пра пол», — з той толькі розніцай, што кастынг ажыццяўляецца ў клубнай мужчынскай прыбіральні. Мэтавая аўдыторыя ўстановы, па словах рэстаратара, гэта заможныя мужчыны, здольныя візуальна «даказаць» сваю заможнасць. Значыцца, павінны быць і эталонныя жанчыны, бо яны якраз і здольныя пацвердзіць мужчынскія статусы».

Ірына зазначае, што жанчын у клубе не ўспрымаюць як паўнавартых кліентак, здольных самастойна заплаціць за свой адпачынак, іх тут частуюць бясплатнымі кактэйлямі. Але яны запатрабаваныя як «жаночыя целы» — аб'екты мужчынскіх вуаерысцкіх жаданняў, і люстэрка-шкло якраз падкрэслівае гэтую магчымасць імі валодаць. Гэта яскравы прыклад аб'ектывацыі жаночага цела ў грамадскім месцы, наўпрост, зневажальны сэксізм.

«Мне цяжка ўявіць такую сітуацыю ў Швецыі, — разважае эксперт у галіне гендарнай роўнасці і сітуацыі ў постсавецкіх краінах Яна Фролен. — Месца такога люстэрка — у музеі сучаснага мастацтва ці на сцэне палітычнага тэатра».

Культуролаг Юлія Чарняўская прапануе вырашэнне праблемы: «Было б больш справядліва, калі б перад уваходам вісела хоць якая шыльдачка. Калі дзяўчаты згодныя ўдзельнічаць у такім «жарце» — калі ласка, а цяпер у іх проста няма выбару».

«Асабіста я бачу ў сітуацыі з люстэркам два парушэнні, — каментуе сітуацыю юрыст Сяргей Зікрацкі. — Гэта ўмяшальніцтва ў прыватнае жыццё, а таксама парушэнне роўнасці палоў.

На памяшканні такога тыпу мусіць распаўсюджвацца таямніца прыватнага жыцця. Прыбіральня — гэта традыцыйнае месца, у якім мы менш за ўсё чакаем, што за намі падглядаюць. А калі нехта глядзіць — гэта ёсць парушэнне, за яго можна патрабаваць кампенсацыю маральнай шкоды».

Але юрыст зазначае: практыка па абароне прыватнага жыцця ў Беларусі невялікая. Гарантаваць, што суд стане на бок пакрыўджанай дзяўчыны і вынесе рашэнне супраць клуба, нельга.

«Іншае пытанне яшчэ больш дыскусійнае. Яно тычыцца гендарнай роўнасці. Чаму люстэрка празрыстае з боку мужчынскай прыбіральні, а не наадварот? — пытае Зікрацкі. — На мой погляд, гэта таксама можна разглядаць як парушэнне роўнасці палоў».

**Настасся Храловіч**

### Апытанне на nn.by

**Ці лічыце Вы нармальным існаванне такога напаўпразрыстага люстэрка ў прыбіральні?**

| | | |
|---|---|---|
| Я мужчына, і не бачу праблемы ў люстэрку | 216 | 13%) |
| Я мужчына, і мяне такая сітуацыя абурае | 409 | 25%) |
| Я жанчына, і мяне сітуацыя задавальняе | 28 | 2%) |
| Я жанчына, і бачу дыскрымінацыю ў існаванні такога люстэрка | 234 | 14%) |
| Мяне турбуе, што свіней знішчаюць! | 735 | 45%) |

Прагаласавалі 1622 чалавекі



Стылягі на роварах культурна страсянулі Мінск. Пяць дзясяткаў фарсіста апранутых дзяўчат і хлопцаў праехаліся праспектам ад Плошчы Незалежнасці, з заездам у Траецкае, да Нацыянальнай бібліятэкі.



Таварыскі матч паміж футбольнымі зборнымі Беларусі і Чарнагорыі прайшоў у Жодзіне пры ўбогіх дэкарацыях. На трыбунах за дзеяннем назіралі добра калі 3 тысячы чалавек. Самы аўтарытэтны спартыўны журналіст краіны Сяргей Новікаў напісаў, што цікавасць да зборнай сярод заўзятараў не проста знікла, а вырвана з коранем. Гульня скончылася ўнічыю — 1:1.



Вяселле ў мінскім метро. Прысутныя на платформе станцыі «Маскоўская» пасажыры зладзілі маладым апладысменты.



Экалагічныя актывісты бягуць у Лонданскім заапарку голыя ў тыгравай афарбоўцы. Такім чынам яны спрабуюць прыцягнуць увагу грамадства да знікнення суматранскіх тыграў.



## Анекдоты і жарты

— Вы аматар жанчын?
— Не, я — прафесіянал.

* * *

Механік у аўтамайстэрні кажа кліенту:
— Запчасткі, якія вы прынеслі, да вашага аўто не падыходзяць.
— Усё магчыма, — згаджаецца той. — На тым скрыжаванні мы сутыкнуліся ўтрох.

* * *

Два міліцыянеры ідуць па Шабанах. Стажор пытаецца ў старэйшага: «А як адрозніць мясцовага на вуліцы ад прыезджага?»
Старэйшы адказвае: «Мясцовыя не пасміхаюцца!»

* * *

Чалавек, які не ведае, як кіраваць уласным жыццём, пасля пляшкі гарэлкі ўжо выдатна ведае, як кіраваць цэлай краінай.

* * *

Самыя маленькія ў свеце каровы, вагой усяго 1,5 кг, былі выпадкова выяўлены ў аграгарадку «Свята камунізму».
Гэта ўнікальнае адкрыццё зрабілі супрацоўнікі Камітэта дзяржкантролю, калі падзялілі вагу здадзенага мясцовым аграгарадком мяса на колькасць галоў.

* * *

Апошні піск моды — гэта гук, які выдае мужчына, якога жонка зацягнула ў дарагую краму і паказала, колькі каштуе ўпадабаная ёй рэч.

* * *

Самую вялікую ў свеце локшыну вырабілі на Беларускім тэлебачанні.

## «НН» сто гадоў з вамі

**Ты квяцісты, залацісты,**
І прыгожы, і аздобны,
Ты лясісты, каласісты,
Можа рай табе падобны —
Колькі ж моцы маеш скрытай,
Колькі сілы неспажытай!

Ты паўстанеш працавіты,
Гаротнічы, невымоўны,
Шчасця, долі прагавіты,
Мой славэчны, мой чароўны!
Будзець час, пабачуць сведкі.
Хоць не мы, дык нашы дзеткі.
**Алесь Гарун**

**«НН». №33. 1913.**

**На новай ратушы стары герб.** На навюткай мінскай ратушы, пастаўленай цягам гэтага года, усталявалі выяву старасвецкага герба места — Панны Марыі з анёламі. Каляровы герб, ашчадна загорнуты ў цэлафан, узнялі ўгару проста пад'ёмным кранам.

**«НН». №31. 2003.**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Наста Бакшанская
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**



8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас: 220101, г. Мінск, вул. Асаналіева, 15-128. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8200. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 23.00 20.08.2013.
Замова №3464.
Рэдакцыйны адрас: Асаналіева 15-128.
Цана дамоўная.

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

